
Эканамічны кангрэс → 3



# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714




Тутэйшая нетутэйшая → 5



http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 40 (3099) Год LX Беласток, 4 кастрычніка 2015 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)




# V Бульбафэст у Ліпінах

Сяброўская сустрэча ў Ліпінах, падчас якой адбывалася пячэнне бульбы на вогнішчы, пераўтварылася ў вялікае мерапрыемства, падчас якога штогод выступы музычных калектываў сталі папаўняцца спажываннем бульбяных страў і конкурсамі. V Бульбафэст арганізавала 12 верасня ў Ліпінах мясцовае аб'яднанне «Крыніца» і войт Гайнаўскай гміны Люцына Смактуновіч. Публіка падчас мерапрыемства шукала сабе найбольш цікавых атракцыёнаў. Дзеткі гулялі на месцы для іх прызначаным і прымалі ўдзел у конкурсах. Найстарэйшая публіка сачыла за выступамі на сцэне. Варта заўважыць, што бульбу называюць нацыянальнай беларускай стравай, якую беларусы спажываюць ахвотна.

V Бульбафэст адкрылі войт Гайнаўскай гміны Люцына Смактуновіч і старшыня аб'яднання «Крыніца» ў Ліпінах Кацярына Якубоўская. Прыбылі на фэст настаяцель прыхода Успення Прасвятой Багародзіцы ў Дубінах протаіерэй Мікалай Кулік і пробашч каталіцкага прыхода Узвышэння Святога Крыжа ў Гайнаўцы ксёндз Юзэф Паскробка, дырэктар Комплексу школ у Дубінах Аліна Гіншт, дырэктар Падставовай школы ў Новым Корніне Ева Мароз, былая войт Вольга Рыгаровіч ды мясцовыя гмінныя і павятовыя радныя. Войт Гайнаўскай гміны Люцына Смактуновіч адзначыла ангажаванасць у арганізацыю бульбафэсту актывістаў аб'яднання «Крыніца». Арганізаваць мерапрыемства дапамагалі таксама працаўнікі гміннай управы з новапрызначанай намесніцай войта Гайнаўскай гміны Міраславай Маеўскай-Іванюк. Першымі перад публікай запрэзентаваліся махнацкія «Жаваранкі», апранутыя ў парадныя мундзіры пажарнікаў.

— «Жаваранкі» — беларускі калектыў. Падчас беларускіх фэстаў мы выступаем у народных касцюмах. Мужчыны з нашага калектыву раней належалі да Добраахвотнай пажарнай каманды ў Махнатым, а жанчыны ўступілі нядаўна. Разам у пажарнай камандзе ў Махнатым дзейнічаюць 52 асобы і быў створаны асобны жаночы атрад у саставе 9 асоб, які здольны прыняць удзел у тушэнні пажараў. Усім членам нашага калектыву пашылі парадныя касцюмы, у якіх мы сёння выступаем. Побач беларускіх песень спяваем некалькі польскіх, з якімі выступаем падчас мерапрыемстваў для пажарнікаў, — сказаў арганізацыйны кіраўнік «Жаваранкаў» Аляксей Герасімюк. — Аднак мы робім стаўку на вяртанне да беларускіх традыцый і спяваем у асноўным народныя беларускія песні.

— Мы рады, што можам выязджаць і спяваць у вялікай грамадзе. У нас ёсць надзея, што публіка задаволена нашымі выступамі, — заявілі жанчыны з махнацкага калектыву. Мерапрыемства вёў Ян Шыманюк з Семяноўкі, які выступае ў дуэце «Ваня і Маня». Марыя з Дубін не прыбыла на фэст і Ваня заспяваў сола. Перад сваімі бацькамі, сябрамі і знаёмымі выступілі дзеткі са школьнага хору Комплексу школ у Дубінах, з якімі займаецца матушка Беата Маркевіч.

— Настаўніца Беата Маркевіч заснавала школьны хор, калі перайшла з Падставовай школы ў Арэшкаве працаваць у нашу школу. Там яна таксама вяла школьны хор. Хор нашай школы часта здабывае пераможныя месцы на конкурсах «Сустрэчы з праваслаўнай калядкай» што арганізуецца ў Гайнаўскім доме культуры, і «Беларуская песня», арганізаваным БГКТ. У мінулым годзе падчас цэнтральнага агляду «Беларускай песні» нашая вучаніца Кінга Вітомская, выступаючы сола, заняла другое месца. Наш хор выступае падчас школьных і гмінных мерапрыемстваў, — сказала дырэктар Комплексу школ у Дубінах Аліна Гіншт. — Я бачу, што бульбафэст — гэта вялікае мерапрыемства.

На бульбафэсце прысутнічалі настаўнікі Падставовай школы ў Новым Корніне.

— У нашай школе вучыцца звыш 30 дзетак. Атмасфера ў нас сямейная, адукацыя адбываецца паспяхова, — сказала дырэктар Падставовай школы ў Новым Корніне Ева Мароз.

Перад публікай танцавала моладзь Калектыву народнага танца «Перапёлка», якая дзейнічае пры Гайнаўскім доме культуры пад кірункам Вольгі Вілюк. Выступілі калектыў «Гармонь» з Ласінкі і хор «Рэха пушчы» з Гайнаўкі, якім займаецца Аліна Негярэвіч.

— Гучаць тут беларускія песні, мы радасна праводзім час. Удала адпачываюць дзеткі, якім арганізуюцца розныя конкурсы, — заявіла Вера Масайла.

Перад сабранымі запрэзентаваўся таксама «Хор леснікоў» з Белавежы. Моладзі ў сваю чаргу спадабаўся выступ калектыву «Лайланд» з Беластока.

— Калі мы першы раз спаткаліся на нашым панадворку ў Ліпінах і пяклі бульбу, рашыліся, што чарговае такое спатканне будзе адкрытае на жыхароў Ліпін і наваколля, што назавем імпрэзу бульбафэстам. Мы год пазней самі збудавалі невялікую сцэну і запрасілі калектывы, членаў якіх мы ведалі. II Бульбафэст праходзіў у сардэчнай атмасферы, хаця тады сабралася яшчэ адносна нямнога людзей. У першай палове 2013 года мы заснавалі аб'яднанне «Крыніца». Восенню гэтага ж года мы арганізавалі ўжо вялікі бульбафэст, а дапамаглі нам гмінныя ўлады, — расказвалі старшыня аб'яднання «Крыніца» Кацярына Якубоўская і яе намесніца Іаанна Кірылюк. — Мінулагодні IV Бульбафэст, так як сёлетні, быў шматлюдным. Тут зручнае месца для вялікіх імпрэзаў — ёсць месца для вялікай сцэны і для публікі. Наша мерапрыемства штогод ладзіцца на адкрытым паветры, але можам пакарыстацца адрамантаванай святліцай. Арганізуючы бульбафэст, мы робім стаўку на актыўны адпачынак дзетак, моладзі і дарослай публікі, прасоўванне здаровага бульбянога харчавання і на музычныя прэзэнтацыі.

Падчас імпрэзы можна было аддаць кроў для патрабуючых, паглядзець новую машыну, якую атрымалі пажарнікі з Махнатага ў рамках польска-беларускага праекта. Сям'я Якубоўскіх арганізавала выставу старых матацыклаў. Удзельнікі бульбафэсту маглі купіць розныя сувеніры. Прадавалі іх жанчыны з Гуртка вясковых гаспадынь з Дубін і прыватныя прадпрымальнікі. За сімвалічную залатоўку прадаваліся старэйшыя кніжкі Публічнай бібліятэкі ў Дубінах. Музычныя калектывы выступалі на вялікай сцэне, на якой або побач не праводзіліся конкурсы. Дзеткі навыперадкі клалі бульбу на нарысаваных на тратуары кружочках, а пасля збіралі яе ва ўмяшчальнікі — называлі гэта пасадкай і ўборкай бульбы. Вучні навыперадкі скакалі ў мяшках і разам з бацькамі спажывалі бульбяныя стравы. Дарослыя ўдзельнікі конкурсу чысцілі бульбу навыперадкі і намагаліся выканаць як найдаўжэйшую лупіну. Удзельнікі фэсту маглі частавацца гарохавым супам і бульбай у розным выглядзе. Першы раз быў арганізаваны Кулінарны конкурс на самую смачную бульбяную страву, да якога загадзя прыступілі жыхары Ліпін, Гайнаўкі і іншых мясцовасцей. Падчас фэсту яго ўдзельнікі, паспрабаваўшы стравы, сярод якіх была бульбяная кішка, бульбяныя дранікі, ці *таўканіца*, ацэньвалі іх. Пераможцамі конкурсу сталі Уршуля Шварц і Ева Вжосак, якія занялі першыя месцы, другое месца атрымала Ева Варсіцкая, а трэцяе месца заняла Барбара Гаўрылюк.

— Мы рашыліся таксама выпякаць бульбу, завернутую ў фольгу, якую называем «бульбай у сярэбраных сарочках». Бульба тады не прыгарае і асабліва смакуе, — удакладніла Кацярына Якубоўская. Елі яе дзеткі і старэйшыя, а іншыя апякалі над вогнішчам каўбаскі.

— Мы арганізавалі ў Ліпінах «Дзень дзіцяці». Нашае аб'яднанне «Крыніца» ладзіла ў гэтым годзе кулінарныя конкурсы. Плануем ладзіць іх таксама ў будучыні, — сказала Кацярына Якубоўская.

— У гэтым годзе нашае аб'яднанне было суарганізатарам тэатральных выступаў у Ліпінах у рамках праекта «Вэртэп». Можна было ў нас пабачыць выставу пра бежанства, — удакладніла Іаанна Кірылюк.

Дожджык крыху напалохаў сабраных, але пасля ўдзельнікі бульбафэсту склалі парасоны і зноў адпачывалі пры музыцы. Вечарам адбылася прэзэнтацыя вогненных фігур.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**





# Эпоха ашуканства

Гучны скандал з аўтамабільным нямецкім канцэрнам „Фольксваген" яшчэ раз стаўся яскравым прыкладам, што жывем мы зараз у час татальнага ашуканства, фальшавання, маны і хіваасці. Гэта ж трэба такое прыдумаць — прыстасаванне, якое паказвае колькасць сапраўдных шкодных выкідаў дызельнага паліва толькі ў час адпаведнай праверкі і якое не працуе ў звычайнай сітуацыі. Асабіста я ў аўтамашынах не разбіраюся зусім. Але, калі яшчэ гадоў дзесяць таму дасведчаныя людзі сталі сцвярджаць, што вельмі часта старыя машыны больш надзейныя, чым абсалютна навюткія, ні на каліва не здзівіўся. Неяк, пабываўшы ў Нямеччыне, купіў я дзве рэчы — электрабрытву для галення ў падарунак і мернік ціску, ці паіншаму танометр, для сябе. Танометр быў сапсаваны адразу і стаўся непрыдатным. Электрабрытва, дзякуй Богу працавала, але век яе быў кароткім. Металёвая сетачка на ёй сцерлася ўжо праз паўгода, а замяніць яе пры ўсёй спраўнасці іншых механізмаў, было ніяк немагчыма. Гэта нехалі слова „нямецкае" ў дачыненні да рэчы, прылады, ці нейкай машыны гучала сінонімам знака якасці. Добра памятаю, як старыя гаспадары дэманстравалі нямецкія малаткі, нажы, іншыя прылады ды інструменты, якім было гадоў пад сто. Цяпер яны цэняцца сярод калекцыянераў. Але няма таго, што раней было ў вытворчасці. Тут расказаў я пра нямецкія вырабы, а што ўжо казаць пра іншыя краіны-вытворцы, дзе ступень якасці вырабаў можна смела назваць аднадзённай.

І справа не толькі, і нават не столькі ў кваліфікацыі выканаўцаў. А сутнасць у тым, што магутныя фірмы і карпарацыі наўмысна не дбаюць пра трываласць, якасць і даўгавечнасць сваіх вырабаў і прадукцыі. Усё разлічваецца так, каб пакупнікі як найхутчэй мянялі свае набыткі на больш новыя. Для гэтага прыдумваюцца розныя аксесуары, нібыта зручнасці, часам сапраўды цікавыя навінкі. Але ранейшай надзейнасці і трываласці ўжо няма. І на гэтым стаіць зараз увесь свет. Ашуканства ў палітыцы, ашуканства ў эканоміцы, ашуканства ў спорце. Ашуканства скрозь і ўсюды.

Спрыяе такому падыходу і псіхалогія бясконцага спажывання, якая дамінуе зараз у свеце. Спажываць, спажываць, спажываць... І грошы любой цаной, не задумваючыся пра якасць, здароўе іншых, лёс наступных пакаленняў. І хоць гісторыя ўжо неаднойчы даказала, што кожнае фальшаванне непазбежна канчаецца крахам ашуканцаў і мноствам негатыўных наступстваў, усё зноў паўтараецца. Набываючы, праўда, пры тым усё больш вычварэнскія формы і праявы.

У Беларусі на гэтым ашуканстве таксама пабудавана ўсё: ідэалогія замест эканомікі, гульня па падоўжанні пажыццёвых прэзідэнцкіх паўнамоцтваў замест выбараў, прыпіскі ўраджаяў замест рэальнай аграрнай рэформы, планы па адміністрацыйных і крымінальных правапарушэннях замест прафілактыкі і раскрыванні сапраўдных злачынстваў. Вось тая ж выбарчая кампанія. Палова фальшывых прэтэндэнтаў на галоўную пасаду краіны нават не збіралі подпісаў — іх зарэгістравалі, не міргнуўшы вокам, іншыя — не сабралі патрэбную колькасць — таксама зарэгістравалі. І вось ужо нібыта апазіцыйная дэмакратычная кандыдатка заяўляе, што яе каманда верыць у тое, што можа быць другі тур галасавання. Далей можна ўжо нічога не гаварыць і не каментаваць. Як кажуць, прыплылі. І выйсці з гэтага заганнага кола бясконцай хлусні з усіх бакоў надзвычай цяжка. І жыццё будзе заходзіць ва ўсё большы тупік. Жылі дзвацаць гадоў на нафтава-газавых ін'екцыях з Расіі, жылі як краіна-ўтрыманка, плацячы самую дарагую цану. Плацячы гонарам, годнасцю, нацыянальнымі вартасцямі, свабодай. Падманваліся нібыта дабрабытам, нібыта мірным жыццём, нібыта спакоем — дажыліся да поўнай залежнасці мазгоў і целаў ад усходняга суседа.

Самы страшны від ашуканства — гэта самападман. Выйсці з гэтага стану найцяжэй. І пакуль гэтага не здарыцца, эпоха ашуканства будзе працягвацца. Пакуль не абрынецца з трэскам і вялікім смуродам.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Стэфанова нага



Стэфану, майму суседу з моманту аварыі, у якую трапіў некалькі гадоў таму на працы, дакучае раструшчаная нага. Некалькі дзён таму я падсеў да яго на лавачку і пачалі мы гамонку, як б сказаў, дабратлівую. То пра суседзяў, то пра бежанцаў, заліваючых Еўропу як вялікая хваля. Твар Стэфана раптам скрывіўся ад болю, як быццам па яго назе прабег цягнік «Pendolino». А зараз пачалося праклінанне: а то чэргаў да лекара і цэнаў на лекі. А то на прэм'ер-міністр Копач, якая кіруе расстроенай дзяржавай так, як звышхуткі цягнік ездзіць па раз'езханых пуцях — гэта значыць, з вялікай шыкоўнасцю, але наперад быццам бы і не вельмі. То на дармаедаў-палітыкаў. З'ехаў аднолькава ўсіх, у тым ліку і ад ПіС, і ад ГП. Таксама і тую паню, якая прэм'ер-міністрам не з'яўляецца, але порацца бы якое шыла ў мяшку, колючы да крыві кожнага, хто ўсадзіць туды сваю руку. Стэфан не чытае газет, але ў палітыцы разбіраецца, як кожны, хто атрымлівае веды аб сучасным свеце з тэлебачання. Мае ў сваім тэлевізары тэлеканалаў больш за сотню ў танным спадарожнікавым пакеце, як ён кажа, мае ўжо сечку ў сваёй галаве, перш чым паглядзіць палову з іх. Такім чынам, самакрытычна прызнаецца, што яго веды настолькі фрагментаваная, як палавінчатыя, але згодныя з яго растаропным розумам. Тым не менш, прызнаецца, але толькі тады, калі не баліць нага. У адваротным выпадку ўладу над яго здаровым розумам пераймае другая частка, поўная атрутнага невуцтва, бяздумная і агідная па змесце інтэрнэт-заяў гэтак званых троляў. О, калі Стэфанова нага баліць, тралюе ён колькі ўлезе. Тады, калі мы сядзелі на лавачцы, найбольш удараў дасталася бежанцам — паразітам, злодзеям і тэрарыстам. Толькі ці бздурнае траскатанне гэта тролінг? А як жа ж!

Аб журналістыцы, якая апускаецца да ўзроўню нерэфлектыўнага тролінга, нельга нічога казаць. Ні добрага, ні кепскага. Гэта не журналістыка, якая заснавана на аб'ектыўнасці і дакладнасці. На жаль, тролінг становіцца ў польскай прасторы СМІ прызнаным стандартам. Прынамсі, такое ўражанне можна аднесці, гледзячы апошнюю вокладку часопіса «WSieci», які імкнецца быць уплывовым. Ужо загаловак сам па сабе прамаўляе «Ева Копач саргазізуе нам пекла па загадзе Берліна». Калі ласка, выразна прачытайце — не прэм'ер-міністр польскага ўрада, а Ева Копач. Пад загалоўкам відаць стылізаваную на ісламскую тэрарыстку-смяротніцу фігуру спадарыні прэм'ер-міністр, у мусульманскай хустцы і абвешаную выбухоўкамі. Пекла, перад якім асцерагае «WSieci» тычыцца гуманітарнага прыняцця Польшчай часткі бежанцаў, пакуль абыходзячых нашу мяжу, але ўдзірваючых дзясяткамі тысяч у іншыя краіны Еўрапейскага Саюза. З родных старонак выгналі іх бясконцыя вайна, гвалт і забойствы, страх і безнадзейнасць. На жаль, адказ на пытанне пра тое, ці варта Польшчы прымаць бежанцаў і які іх лік, выразна дзеліць грамадзян Рэчы Паспалітай на тых, якім пастаянна баліць нага і тых, якім у цяперашні час яна не баліць або ніколі не балела. Прэм'ер-міністр Копач, мабыць, не верыць у выбарчыя сілы апошніх. Што тычыцца першых, іх прадстаўніком без сумнення з'яўляецца часопіс «WSieci», вельмі спрыяючы палітычна ПіС. Але ў мяне ёсць уражанне, што рэдактарам больш залежыць на апошніх і тым больш інтэнсіўна прабуюць пераканаць, што адчуваюць яны боль, на самой справе яго не адчуваючы. Схаваная ў загалоўку здагадка, што польскі суверэнны ўрад, пагадзіўшыся прыняць 12 тысяч бежанцаў пад нямецкім ціскам, на самой можа забалець. Але калі камусьці сапраўды балюча, гэта абазначае, што даў сябе ўвесці ў зман агіднай красе антыіміграцыйнага тролінга. У адрозненне ад гэтага, не паддаюцца гэтаму немцы, якіх вядзе чалавечы інстынкт салідарнасці, і яны гатовыя прыняць да мільёна чалавек — чужых ім па культуры, рэлігіі, а часта і ў плане цывілізацыі няшчаснікаў з Сірыі або паўпісьменных афрыканцаў з бедных краін. Ну там, тая Нямеччына! Ці яны клапоцяцца хворай нагой чытачоў «WSieci»? Паводле слоў Стэфана на лавачцы, пакуль ім не аваладала пакута: «Калі нешта камусьці баліць, то той хацеў бы ад гэтага ўцячы. Я нават у тую іхнюю Сірыю ўцякаў бы. Але як уцякаць, калі нага баліць?!». А кульмінацыя гэтага заключаецца ў наступным: лепш мець абедзве здаровыя нагі, таму што хто ведае, калі і нам прыйдзецца ўцякаць?

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Міністр у Палацы

У рамках урадавага «дэсанта» на Падляшша, пра які я казаў тут на мінулым тыдні, з прадпрымальнікамі 14 верасня ў беластоцкай Прамыслова-гандлёвай палаце сустрэўся міністр замежных спраў Гжэгаж Схетына, які выконвае гэтую функцыю з верасня мінулага года. Прэзідэнт палаты Вітальд Карчэўскі на самым пачатку сустрэчы засцярог з некаторым шкадаваннем: «Усе нам абяцаюць, што ўсходняя палітыка будзе служыць эканамічнаму развіццю (...). Расійскае эмбарга аказала велізарны ўплыў на эканоміку, і мы павінны шукаць новыя рынкі. У нас ёсць дзяржаўная дапамога, таксама і фінансавая, калі гаворка ідзе пра афрыканскія і азіяцкія рынкі». Успамінаючы аб афіцыйна адкрытым нядаўна міжнародным пераходзе на польска-беларускай мяжы ў Палаўцах, сказаў: «Сучасная памежная інфраструктура неабходная, але пагранпераходы мусяць жыць».

Сам міністр у пачатку свайго выступлення з гонарам спаслаўся на прыярытэтна трактаваную ў час яго кіравання міністэрствам замежных спраў эканамічную дыпламатыю:

«Мусіць быць стратэгія польскіх прадпрыемстваў за мяжой з перспектывай ад пятнаццаці да дваццаці гадоў, таму што ў 2020 г. канчацца еўрасаюзныя сродкі. Будуць яны, магчыма, да 2022 года. Пасля яны не будуць у такой колькасці, як раней.

Пераконваў да ўдзелу польскіх фірмаў на рынках Афрыкі і Далёкага Усходу і запэўніў аб адкрытасці МЗС на дапамогу ў кантактах польскіх прадпрымальнікаў з замежнымі партнёрамі. На яго думку, у тым ліку ў эканамічнай сферы, «патэнцыял дрэмле ў польска-беларускіх адносінах», але ўзнікае пытанне, як яго разбудзіць. Міністр лічыць, што адным з элементаў, якія маглі б дапамагчы ў гэтым, будзе ўступленне ў сілу пагаднення аб малым памежным руху паміж нашымі дзвюма краінамі, які блакуецца беларускім бокам. Дадаў: «Я спадзяюся, што прэзідэнцкія выбары ў Беларусі (адбудуцца 11 кастрычніка — М. Х.) будуць закрыццём гэтага цяжкага часу ў адносінах з гэтай краінай. Мы ведаем, што заходні бізнес там ёсць, і мы таксама павінны быць там. Гэта таксама з'яўляецца асновай для добрасуседскіх адносін. Тут бізнес з'яўляецца ключом. Апошнія падзеі ў Беларусі (гэта тычыцца вызвалення шасці палітвязняў — М. Х.) — добры сігнал». Пры нагодзе адзначыў: «Няма пагаднення аб спрашчэнні візавага рэжыму паміж ЕС і Беларуссю, які б знізіў кошт віз. На саміце Усходняга партнёрства ў Рызе Беларусь адмовілася. Але ўсё-ткі вядуцца на гэтую тэму размовы».

Міністр Схетына таксама згадаў аб «свабодных адносінах» Польшчы з Кітаем і новым Шаўковым шляху. У Польшчы маюць узнікнуць перагрузачныя тэрміналы для кітайскіх партнёраў у гданьскім порце і пабудаваны чыгуначны каля Лодзі, куды мае даязджаць прамы цягнік з Кітая. Ён таксама спаслаўся на набліжэнне да Польшчы хвалі бежанцаў з Сірыі: «Мусіць быць пасляховая абарона меж ад нелегальных мігрантаў. Мы павінны аддзяліць палітычных уцекачоў ад эканамічных мігрантаў. Маштабы гэтага зыходу велізарныя, ніхто ў ЕС такога не чакаў. Гэта можа заняць гады».

Адказваючы на пытанне аднаго з прадпрымальнікаў пра аб'яву прэм'ер-міністр Евы Копач пра зніжэнне падаткаў, асабліва асабістых пасля магчыма выйгрышных выбараў Грамадзянскай платформы, міністр Схетына сказаў: «Кожная выбарчая кампанія мае свае правы». Растлумачыў, аднак, адразу ж пасля гэтага: «Падаткавы парог у 10 адсоткаў магчымы толькі для самых бедных шматдзетных сем'яў. Для ўсіх іншых такі немагчымы».

Пасля сустрэчы я спытаўся ў міністра Схетыны, якія ўмовы павінны выканаць беларускія ўлады, каб былі зняты санкцыі ЕС супраць гэтай краіны, у тым ліку польскія, уведзеныя пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 года і хвалі палітычных рэпрэсій пасля іх. «Першай асноўнай умовай было вызваленне палітычных зняволеных. Будзе прымацца пад увагу ўвесь выбарчы працэс: выбарчая кампанія і самі кастрычніцкія выбары, гарантыі іх адкрытасці і дакладнасці вынікаў. На выбарах 2010 года здавалася таксама, што Беларусь шукае свой шлях, што ўсё будзе інакш, а пасля выбараў аказалася, што сітуацыя пагоршылася. Так што я мяркоўны. Я думаю, што гэта павінен быць працэс і вырашаць аб гэтым мы павінны пасля выбараў. Напэўна пройдзе ў Брусэлі перагляд санкцый, але без папярэдніх умоў. Мы павінны быць упэўнены, што Беларусь выбірае пэўны шлях і будзе ісці па ім паслядоўна».

Праз тыдзень, між іншым, аб пазіцыі міністра Схетыны ў справе кандыдатуры новага амбасадара ў Мінску Януша Скалімоўскага, якая ўзбуджае разнабой у польскіх палітычных колах.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**



# II Усходні эканамічны кангрэс

Міністры, прадстаўнікі рэгіянальных і мясцовых органаў улады, найбольш важных публічных устаноў, а таксама польскія і замежныя эксперты ды кіраўнікі шматлікіх кампаній прынялі ўдзел у II Усходнім эканамічным кангрэсе ў Беластоку, які адбыўся ў сядзібе Падляшскай оперы і філармоніі — Еўрапейскага цэнтра мастацтваў. Яго дэвіз — «Партнёрства для развіцця. Еўропа — Польшча — Усход». У трыццаці тэматычных сесіях і пасяджэннях Кангрэса прынялі ўдзел кіраўнікі, спецыялісты, палітыкі, лідары эканамічнага жыцця, а таксама вучоныя і прадпрымальнікі з Польшчы, Беларусі, Літвы і іншых краін Еўропы. На працягу двух дзён разглядаліся пытанні, прысвечаныя геапалітычным дэтэрмінантам эканамічнага развіцця ва Усходняй Еўропе, бяспецы, міжнароднаму і прыгранічнаму супрацоўніцтву, важнасці буйных інвестыцый у інфраструктуру і дэталёваму аналізу важных галін эканомікі — энергетыцы, аграрна-харчоваму рынку, медыцынскім паслугам, гандлю, турызму і гасцінічнай гаспадарцы.

Асноўная дыскусія (24-25 верасня) круцілася вакол асноўных плыняў: «Усходняя Еўропа, эканоміка, супрацоўніцтва, будучыня», «Памежнасць — магчымасці ў суседстве», «Рэгіёны Усходняй Польшчы — Гарызонт 2020» і «Бізнес ва Усходняй Польшчы». Падчас інаўгурацыйнага выступлення намеснік прэм'ер-міністра і міністр эканомікі **Януш Пехацінскі** сцвярджаў, спасылаючыся на польскія адносіны з усходнімі партнёрамі на постсавецкай прасторы, у тым ліку з Беларуссю:

— Сёння пры гэтай нявызначанасці ў сучасным свеце не можа быць так, што мяжа Еўрапейскага Саюза і Еўразійскага эканамічнага саюза стане закрытай. Не пасля таго, як палякі адыгралі такую вялікую ролю ў разбурэнні мураў у Еўропе, каб на польска-расійскай, польска-беларускай, польска-ўкраінскай межах вырас чарговы мур (...). Гэта вельмі важна, каб вось адсюль з Беластока пасласць польскі выразны сігнал: мы гатовыя аднаўляць кан'юнктуру ўзаемных адносін. Яна неабходная, каб аднавіць давер, верагоднасць, добрыя намеры, здольнасць да супрацоўніцтва.

Падкрэсліў ён патрэбу ў зносінах (транспартна-экспедыцыйных) Польшчы і астатняй Заходняй Еўропы з яе ўсходнімі суседзямі, і дадаў ярка: «Калі не могуць сустракацца прэм'еры і міністры, павінны чыгуначнікі і мытнікі».

### АДНАЎЛЕННЕ НАДВОР'Я

У гутарцы з «Нівай» віцэ-прэм'ер, папрошаны намі ацаніць сённяшняе польскае эканамічнае супрацоўніцтва з Беларуссю, сказаў:

— Я таксама, як сустаршыня польска-беларускай міжурадавай камісіі, ацэньваю яго вельмі добра. Час ад часу бывае час росквіту і дабрабыту, генераваны часта падзеямі панадбеларускімі ці панадпольскімі, але Беларусь для нас гэта вельмі важны і добры партнёр, да нядаўняга часу краіна ў ліку першых дзесяці, з якімі Польшча супрацоўнічае, з якой два гады маем значную адлігу на дыпламатычным узроўні, і інтэнсіфікацыю сустрэч. Што вельмі важна, з абодвух бакоў нашай мяжы ёсць зразуменне для лакальнага руху, для рэгіянальнага супрацоўніцтва. Мы знаходзімся ў розных саюзах, але гэта не значыць, што яны маюць аддаляцца, а польска-беларуская мяжа, якая з'яўляецца мяжой Еўрапейскага Саюза і Еўразійскага эканамічнага саюза, павінна быць непрыязнай. Павінна быць прыязная, з прапускной здольнасцю, адкрытыя для разумных людзей, якія ў свеце палітыкі і ў свеце грамадзянскай супольнасці, і ў свеце прадпрымальніцтва ведаюць, што разам мы можам зрабіць больш. Мы разумеем, што сёння ёсць пэўныя праблемы, працэс нармалізацыі і ўмацавання адносін трапляе на спрэчкі вакол самастойнай ролі і цэласнасці Украіны. Тут трэба вельмі высока цаніць афіцыйную пазіцыю і ўдзел беларускага боку ў дасягненні Мінскага пагаднення, а таксама адвагу выказаную за поўную цэласнасць межаў у Еўропе. Мы ведаем гэтыя ўмовы і тым больш гэта павінна выклікаць павагу.

Віцэ-прэм'ер Пехацінскі таксама распавёў аб супрацоўніцтве з Беларуссю ў кантэксце маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбараў у гэтай краіне (11 кастрычніка):

— Мы хацелі б, каб там ужо не было палітычнага закалоту, які прымусіў бы вярнуцца і думаць катэгорыямі чаго напэўна разам не можам зрабіць. Я — чалавек, які кіруецца ў першую чаргу рацыянальнасцю і прагматызмам. Усходняя Польшча, у тым ліку Беласточчына, не могуць думаць па-іншаму пра той бок мяжы як пра сяброўскую прастору для супрацоўніцтва і ўзаемадзеяння. Такім чынам, паважаючы свае адрознасці, давайце засяроджвацца на тым, што мы можам зрабіць разам. Тым не менш, можа не вылучайма тых рэчаў, якія сёння яшчэ нас адрозніваюць. Палітыка добрая толькі тады, калі яна служыць людзям, і найлепш служыць людзям, калі служыць эканоміцы таксама ў адносінах з іншымі дзяржавамі і, вядома, напэўна з суседнімі краінамі. Адсюль рэканструкцыя надвор'я ў адносінах ЕС — постсавецкі Усход, Польшча — постсавецкі Усход павінна быць нашай канкрэтнай задачай.

### У БЕЛАРУСІ ЛЕПШЫ КЛІМАТ

У сваю чаргу **Славамір Майман**, старшыня Польскага інфармацыйнага агенцтва і замежных інвестыцый (ПІАіЗІ) падзяліўся сваім меркаваннем з намі:

— Супрацоўніцтва з усходнімі суседзямі Польшчы да гэтага часу недастатковае. І гаворка ідзе не пра палітычныя меркаванні, у тым ліку тыя ці іншыя санкцыі, але пра тое, што Польшча дасюль засяроджвалася на ЕС — і гэта правільна, але гэтага супрацоўніцтва з усходнімі суседзямі не зашмат. Беластоцкі Усходні эканамічны кангрэс мае пірамідальную ролю для адыграння, калі справа ў актывацыі супрацоўніцтва. На працягу некалькіх гадоў эканамічнае супрацоўніцтва з Беларуссю было замарожанае. Ужо каля года больш актыўна мы глядзім на Беларусь, дзе бачым вялікія магчымасці для польскіх інвестараў, для польскага экспарту ў гэтую краіну. ПІАіЗІ некалькі месяцаў таму падпісала пагадненне з нашымі беларускім калегамі. Магчыма, мы вернемся да праграмы, па якой на працягу больш дзясятка месяцаў абучылі амаль сто беларускіх чыноўнікаў на тэму рынкавых механізмаў, прыватызацыі, супрацоўніцтва з сацыяльнымі партнёрамі і прыцягнення інвестыцый.

— Адкуль такая змена ў адносінах да Беларусі ў эканамічным плане? — пыталіся мы.

— Польская эканоміка адчула сябе больш упэўненай. Мы ўмацавалі нашу пазіцыю ў ЕС. Польскія кампаніі пачалі разглядацца далёка па-за межамі Еўропы. Пачалі ажыццяўляцца праграмы «Go Africa», «Go China». Надышоў час для нас, каб вярнуцца туды, дзе мы павінны быць на працягу доўгага часу: на ўсход Еўропы. Ёсць некалькі абласцей, дзе польскія кампаніі маюць зараджаную руку. Гэта ў першую чаргу харчовы комплекс, пачаўшы ад перапрацоўкі да экспарту прадуктаў харчавання, гэта інфраструктура, будаўніцтва, і ўсё штораз большыя тэхналогіі ў такіх галінах, як абарона прыроднай спадчыны, у якой мы становімся штораз больш важнымі і моцнымі ў еўрапейскім маштабе. У Беларусі паляпшаецца інвестыцыйны клімат, што пацвярджаецца ростам колькасці прадпрыемстваў з удзелам польскага капіталу. Ёсць іх там зараз нават больш, чым ва Украіне. З іншага боку, напрыклад, у Літве меншае колькасць польскіх прадпрымальнікаў, над чым мы павінны папрацаваць.

Дадаў:

— Прыватызацыя ў Беларусі не развіваецца занадта хутка, але прасоўваецца і ўяўляе сабой непазбежную з'яву. Такая логіка эканамічнага развіцця. Прыватызацыя ў Беларусі стварае магчымасці для польскіх фірмаў. Мы хочам, каб польскія кампаніі былі гатовы да прыватызацыі і прынялі ўдзел у ёй.

### РОЛЯ ПАСРЭДНІКА

Сёлета з Беларусі прыехала група амаль з пяцідзесяці чалавек, у асноўным прадстаўнікі малога і сярэдняга бізнесу, у тым ліку Наталля Нікандрава, дырэктар Нацыянальнага агенцтва інвестыцый і прыватызацыі ды Уладзімір Карагін, старшыня Рэспубліканскай федэрацыі развіцця прадпрымальніцтва ў Беларусі. Што яны сказалі на з'ездзе і ў інтэрв'ю з «Нівай» — праз тыдзень. А адкрываючы другі дзень Кангрэса былы прэм'ер-міністр і старшыня Еўрапейскага парламента, у цяперашні час дэпутат Еўрапарламента **Ежы Бузэк** сцвердзіў у сваёй прамове:

— Рэгіён, у якім мы знаходзімся, дзякуючы свайму распалажэнню мае шанц развівацца больш, чым іншыя часткі краіны. Сёння ўжо не відаць розніцы паміж польскімі мегаполісамі і тымі на Захадзе Еўропы. Скарачаюцца розніцы паміж Польшчай гарадской і сельскай. Што важна для ўсходніх рэгіёнаў, гэта выкарыстанне шанцу распалажэння на ўсходняй мяжы ЕС.

Ён падкрэсліў, што для таго, каб скарыстацца распалажэннем, трэба ўсведамляць свае слабасці. Сярод іх — фрагментаваная сельская гаспадарка, нізкая прадукцыйнасць, якая з'яўляецца вынікам стану індустрыялізацыі і машыннага парка, а таксама нізкай інавацыйнасцю ў параўнанні з сярэдняй па краіне.

Адзначыў таксама:

— Менавіта ў гэтым рэгіёне стварылі мы самы важны ва ўсім Еўрасаюзе малочны басейн, якога прадукцыя заваявала Еўропу, перамогшы дацкія і галандскія прадукты. Гэта можа быць зроблена, і менавіта таму я перакананы, што Усходняя Польшча з'яўляецца рэгіёнам, які можа развіннуцца больш, чым іншыя рэгіёны краіны, дзейнічаючы ў якасці пасрэдніка з аднаго свету ў іншы.

Па словах былога старшыні Еўрапарламента бессэнсоўна будаваць невялікія навуковыя і тэхналагічныя паркі. Замест гэтага яны павінны быць аб'яднаны ў сеткі і кластары, ствараць міждысцыплінарныя каманды.

Падчас адных з апошніх дэбатаў па развіцці ўсходняй Польшчы прэзідэнт Беластока **Тадэвуш Трускалякі** выказаў меркаванне, што падляшская сталіца зробіць магутны цывілізацыйны рывок, вылучаючы ў апошнія дзевяць гадоў 2,5 млрд. злотых для інвестыцый, асабліва для інфраструктурных. Ён прызнаў, што бар'ерам па-ранейшаму з'яўляецца вонкавая камунікацыя з такімі цэнтрамі, як Варшава, Люблін і Ольштын, але запэўніў, што на працягу бягучай фінансавай перспектывы ЕС гэтыя праблемы павінны быць вырашаны. **Мацей Жыўна**, падляшскі віцэ-маршалак у сваю чаргу ацаніў, што новая перспектыва ЕС будзе больш эфектыўнай, чым папярэдняя, таму што больш фінансавых рашэнняў прымаецца ў саміх рэгіёнах:

— У рамках 5 мільярдаў злотых, якія маем у цяперашняй перспектыве для Падляшша, 1 млрд. зл. будзе ісці непасрэдна да прадпрымальнікаў, якія з'яўляюцца асновай развіцця рэгіёна. Гэта ў першую чаргу будуць сродкі, прызначаныя на падтрымку інавацый, даследаванняў і развіцця ў супрацоўніцтве з мясцовымі вучэльнямі, але і ў далейшым на інфраструктуру, на далейшае паляпшэнне, у чым надалей зацікаўлены прадпрымальнікі.

У ходзе іншых тэматычных дэбатаў, прысвечаных трансгранічнаму супрацоўніцтву, было адзначана, што з пачатку года падляшская мытная служба зафіксавала 80 000 дакументаў у рамках сістэмы Tax-Free, а гэта абазначае, што за ўсходнюю мяжу за той час было перавезена тавараў на суму каля 640 млн. зл. Гэта паказвае, што мінулагодняя закупная тэндэнцыя ўсходніх суседзяў на Падляшшы ўтрымліваецца. У другі раз Кангрэс суправаджаўся плебісцытам на Камунальныя топ-інвестыцыі Усходняй Польшчы. Яго мэтай з'яўляецца паказанне ведзеных самаўрадамі або іх даччынымі ўстановамі інвестыцый, якія ўносяць найбольшы ўклад у развіццё эканомікі і рэгіёна Усходняй Польшчы. Сярод пераможцаў апынуўся Гарадскі стадыён у Беластоку і біягазоўня ў ачышчальні сцёкаў у Сямятычах.

(працяг будзе)

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

## Кулінарныя сакрэты ад Ясюка Струка

**1.** Каб яечня была пухкая, можна дадаць дзве лыжкі халоднай вады на адну шклянку яек і добра ўзбіць.

**2.** Замест дрожджаў у цеста можна дадаць трохі каньяку. Пры гэтым цеста стане духмяным, а выпечка смачнейшай.

**3.** Бялок яйка хутчэй узаб'ецца ў пухкую пену, калі яго папярэдне астудзіць і дадаць некалькі кропель лімоннага соку або трохі лімоннай кіслаты. З жаўтком жа паступаюць наадварот — яно любіць цяпло і цукар.

**4.** Каб абсмажыць або запячы мяса з залацістай скарыначкай, трэба яго пашмараваць мёдам.

**5.** Цыбуля страціць горыч і будзе значна смачнейшай, калі яе пасля нарэзкі паклaсці ў друшляк і abліць кіпенем.

**6.** Пячонка будзе мяккай, калі перад абсмажваннем пасыпаць яе цукрам.

**7.** Каб яйкі пры варэнні не трэскаліся, іх трэба вымыць перад гэтым у халоднай вадзе.

**8.** Каб малако пры варэнні не прыгарэла, рондаль трэба спаласнуць халоднай вадой, і варыць на сярэднім агні.

**9.** Гародніну чысціць і мыць непасрэдна перад тым, як укідаць яе ў суп.

**10.** Каб у морквы быў добры смак, яе трэба варыць 5-10 хвілін. Моркву, таксама як і іншую гародніну, вараць на добрым агні і соляць у канцы варэння.

**11.** Каб рыс быў рассыпістым, яго трэба перад варэннем замачыць у халоднай вадзе на 30 хвілін.

**12.** Каб соль у посудзе не ўвільгатнела, варта дадаць у яе некалькі зярнят рысу.

**13.** Каб рыс не разварыўся, яго можна трохі абсмажыць, аднак варта ўлічыць, што ў гэтым выпадку ён не вельмі павялічыцца ў памерах.

**14.** Каб малако не ўцякло, трэба кінуць да яго кавалачак цукру і накрыць, памешваючы кожныя 3-4 хвіліны.

**15.** Каб рыс быў празрыстым, трэба на 5 хвілін апусціць яго ў кіпень.

**16.** Каб рыс або макароны не зліпаліся пры варэнні, трэба дадаць у ваду трохі сланечнікавага або аліўкавага алею або abліць у друшляку халоднай вадой пасля варэння.

**17.** Завялыя кроп і пятрушка стануць зноў свежымі, калі пакласці іх у ваду злёгку разведзеную воцатам.

**18.** Калі хочаце атрымаць смачную гародніну пры варэнні, трэба апусціць яе ў ваду пасля таго, як вада закіпіць. Калі хочаце, каб смачным быў булён — трэба пачынаць варыць гародніну ў халоднай вадзе.

### Марожаны лімон

Рэстаратары і народныя лекары ведаюць, як выкарыстоўваць увесь лімон, пры гэтым нічога не выкідваючы, і атрымліваючы максімальную карысць!

Як жа выкарыстоўваць цэлы лімон без адходаў? Дастаткова пакласці добра памыты лімон у маразільную камеру і пасля таго, як ён будзе замарожаны — узяць на талерку цэлы і націрці на тарцы. Дадавайце гэтую стружку ў вашы стравы! Дадавайце яе ў салаты, марожанае, супы, макароны, у стравы з рыбы, віно і нават гарэлку. Не спыняйцеся з эксперыментамі, таму што гэты пералік страў можна працягваць да бясконцасці! Стравы здабудуць нечаканы прыемны смак. Думаеце, што вітаміну С больш у лімонным соку? Лімонная лупіна, якая звычайна выкідваецца — змяшчае ў сабе ў пяць разоў больш вітаміну, чым лімонны сок! Замарожваючы цэлы лімон, а пасля пасыпаючы ім вашы стравы, будзеце ўжываць ўсе пажыўныя рэчывы гэтага плада і станавіцца здаравейшымі. Лімонная лупіна паможа пры вывадзе таксічных рэчываў з вашага арганізма.

Пакладзіце чысты і памыты лімону маразілку і затым націрайце яе ў стравы кожны дзень. Гэта зробіць вашу ежу смачнейшай, а ваша жыццё здаравейшым і даўжэйшым! У гэтым увесь сакрэт лімона!

**Ясюк СТРУК**

# Рэнесанс

## гістарычнае свядомасці даўніх жыхароў вёскі Боўтрыкі




**5 верасня 2015 года ў раёне дачнага пасёлка, размешчанага на тэрыторыі былога сяла Боўтрыкі, адбылася цырымонія асвячэння помніка гэтае вёскі. Вёскі Боўтрыкі, Буды, Лука, Гарбары і Рудня былі поўнасцю ліквідаваны ў сувязі з пабудовай на тэрыторыі Міхалоўскай і Нараўчанскай гмін вадасховішча Семяноўка. Тры іншыя вёскі былі выселены часткова — разам 289 сем'яў.**

Даўнія жыхары Боўтрыкаў, нягледзячы на рассеянне па Польшчы і свеце, змаглі арганізаваць сябе і ўзвесці помнік на тэрыторыі сваёй вёскі. Жыхары Буд, Лукі і Рудні паставілі такія помнікі на тэрыторыі сваіх вёсак некалькі гадоў таму. Паводле інфармацыі (распрацаванай Міхалам Боўтрыкам — даўнім жыхарам вёскі Боўтрыкі, журналістам штомесячнага часопіса «Przegląd Prawosławny»), размешчанай на інфармацыйнай дошцы ля помніка, гістарычныя крыніцы згадваюць пра пачаткі вёскі ў першай палове сямнаццатага стагоддзя. Знаходзілася там паселішча пчалароў-бортнікаў. У пачатку дзевятнаццатага стагоддзя, «пры цары», каб аднавіць зямельную структуру вёскі, ліквідаваны быў стары падзел зямлі, прайшла камасацыя і зямля была падзелена на 14 участкаў, плошчай у 30-32 гектары кожны. Першапачаткова ўладальнік кожнага ўчастка насіў прозвішча *Боўтрык*. З часам, у выніку прымацкіх шлюбаў, у Боўтрыках з'явіліся іншыя прозвішчы: Баршчэўскі, Бароўскі, Хрэн, Кардаш, Казбярук, Крэнтоўскі, Лінкевіч, Лешчук, Навіцкі, Сікора, Шамко, Шмыга, Зда624оўскі. У 1978 годзе прозвішча *Боўтрык* выступала толькі на трох участках. У 1921 годзе, пасля вяртання з *бежанства*, у Боўтрыках было 34 дамы. Жыло ў іх 186 жыхароў, у тым ліку 143 праваслаўныя і 43 каталікі. Як паўстаў рэлігійны падзел у Боўтрыках? Як вядома, пасля 1596 года, у выніку рэлігійнае Брэсцкае уніі, большасць праваслаўных хрысціян з тэрыторыі цяперашняга Падляшскага ваяводства на працягу каля ста гадоў сталі ўніятамі. У 1839 годзе, у выніку ўніяцкага сабору ў Полацку, арганізаванага ўніяцкім архірэем Іосіфам (Сямашкам), наступіла вяртанне ўніятаў да Праваслаўнай царквы. З пераказаў старэйшых людзей, якія я чуў у дзяцінстве і юнацтве, вядома, што каталіцкія жыхары Боўтрыкаў і іншых навакольных вёсак гэтага рэгіёна з'яўляюцца карэннымі, этнічнымі беларусамі, так як і праваслаўныя жыхары. Сталі яны каталікамі ў выніку пераходу ў каталіцтва пасля царскага, так званага *талерантнага ўказа* 1905 года.

У 1974 годзе, калі было прынята рашэнне пабудаваць вадасховішча ў вярхоўях ракі Нарвы, у Боўтрыках было 48 дамоў. У 1991 годзе на месцы вёскі была ўжо вада.

Але вернемся да цырымоніі. Помнік складаецца з двух частак: адрэстаўраванага помніка з 1907 года і новае мармуровае пліты з надпісам.

Надпіс на помніку — на старажытнаславянскай мове: «Всё упованіе наше на Тя возлагаемъ Мати Божія сохрані насъ под кровомъ Твоимъ Кресть сей сор. кр. д. Болтрикъ 1907 г.».

На мармуровай пліце знаходзяцца каталіцкі і праваслаўны крыжы і надпіс: «Вёска Боўтрыкі Wieś Bołtryki Rok założenia 1750 Rok wysiedlenia 1991 2015 r. Sponsor Zakład Kamieniarski Oksentowicz».

У цырымоніі адкрыцця прынялі ўдзел некалькі сотзень чалавек. Помнік асвяцілі каталіцкі і праваслаўны святары. Першым помнік асвяціў святар каталіцкага прыхода ў Міхалове. Каталіцкі святар роднай парафіі ў Ялоўцы не змог прысутнічаць па службовых прычынах. Пасля адпаведны малебен з асвячэннем помніка здзейсніў бацюшка Славамір Тафілюк з праваслаўнага прыхода ў Юшкавым Грудзе.

Пасля асвячэння помніка выступілі старшыня Камітэта пабудовы Ян Бароўскі, бургамістр горада і войт гміны Міхалова Уладзімір Кананчук, ксёндз, бацюшка, кіраўнік аб'екта «Вадасховішча Семяноўка» Лявон Хлябіч (гаспадар зямлі, на якой цяпер стаіць помнік вёскі Боўтрыкі). Ён прыстойны чалавек, з незвычайна вялікімі ведамі і інтэлектам. Памагаў устанаўліваць помнікі ўсім выселеным вёскам. Я ведаю яго з дзяцінства, з пачатковай школы ў Рыбаках.

Прамоўцы гаварылі аб неабходнасці і мэтах узвядзення помніка, пра памяць аб «малой айчыне» (як немцы гавораць «*Heimat*»), аб перадачы любові да яе сваім будучым пакаленням, нашчадкам, аб неабходнасці захавання роднай беларускай мовы, якая ў гэтым рэгіёне выкарыстоўвалася і ў цяперашні час шырока выкарыстоўваецца яго жыхарамі — так каталікамі, як і праваслаўнымі. Гэтая мова была афіцыйнай мовай Вялікага Княства Літоўскага, у межах якога знаходзіліся Боўтрыкі. На гэтай мове гаварыў кароль Уладзіслаў (Якаў) Ягайла. На гэтай мове былі напісаны тры паслядоўныя зводы законаў — *Статуты Вялікага Княства Літоўскага*. Не кожны пра гэта ведае, таму што ў школьнай праграме гісторыі гэтыя факты (і іншыя) старанна замоўчваюцца.

Хто не ведае гісторыі свайго народа, рэгіёна, мясцовасці — менш каштоўны, чым чалавек з гэтымі ведамі. Людзі несвядомыя свайго паходжання часта дазваляюць маніпуляваць сабою розным СМІ, модам, палітыкам, ілжэпрарокам...

Мы, беларусы ў Польшчы, павінны памятаць, аб гэтым! Памятаць пра мінулае і пра будучыню сваіх «малых Homelands»!

**Георгі ЗЮЗЯ**
**з Рудні, Варшава**

— Моцна люблю людзей, не ўяўляю як можна жыць у адзіноцтве.

Любіць і баіцца. Найбольш палохае яе двудушнасць.

— У хату ўваходзіць чалавек, выдае сябе за сябра, а на самой справе не ведаеш хто ён і на што гатовы. Гэтым, якія да мяне прыходзяць, абгавор людзей строга забаронены.

Іаанна ЯЦКЕВІЧ, 35 гадоў, маці дзвюх дзяўчат: 9-гадовай Улі і 12-гадовай Патрыцыі. «Іааннай» карыстаецца толькі ва ўстановах, больш падабаецца ёй «Аська». Гэтае імя, мабыць, створана спецыяльна для яе. «Аська» на мове фарсі (Іран) і ў цюркскіх мовах абазначае любоў.

Добрая, сціплая дзяўчына, з вачамі вечна палаючымі агнём жыцця. Жыве ў Крынках, у чыстай як сляза хатцы. Чыстай таму, што муж, вымушаны складанымі эканамічнымі абставінамі, адправіўся на працу за мяжу.

— Я не тутэйшая, — кажа пра сябе.

— Прыехала з Мазураў, з вёскі непадалёк Рэшля. Бацька жыў у Рацаве пад Саколкай, мама — у падольштынскіх Коршах. Пазнаёміліся ў ПГРы. Добра ім там вялося. Бацька нават старшынстваваў кентшынскаму ЗСМП (Звяз сацыялістычнай польскай моладзі). Чаго яны туды прыперліся, сама не ведаю. Тут, у вёсцы Горка пад Крынкамі, таксама ПГР быў. Брат бацькі прыехаў да нас угаворваць. Абяцаў добрае жыллё, працоўны аванс. З'ехалі ў 1989 годзе, а ў дзевяностых ПГР ужо ліквідавалі. Бедавалі. Жылі з продажу знойдзеных у лесе грыбоў і ягад. Збіралі ўсе, бацькі і нас васьмёра дзяцей. Гаспадаркі не было, трымалі толькі парася і некалькі курэй. Я безупынна плакала і, калі толькі здаралася магчымасць, уцякала да бабулі на Мазуры.

## — Як успамінаеш сваё дзяцінства

— Я заўсёды была дарослая. Дапамагала гадаваць сямёра малодшых за мяне братоў і сясцёр. Безупынна сядзела з імі ў хаце. Бацькі хварэлі, усё было на маёй галаве. Мая цяперашняя суседка-настаўніца з крынскай школы казала: «А цябе больш няма чым ты ёсць у гэтай школе». Справа не ў тым, што мне не хацелася вучыцца. Мне проста не было як выйсці з хаты. Пасля вельмі хацела паступіць у гастранамічную школу, але не змагла даехаць на ўступныя экзамены. Пайшла ў тэкстыльны тэхнікум, там якраз засталося яшчэ свабоднае месца. Думала сабе: «Божа, а што ж я тут буду рабіць?». Потым прывыкла. Было мне там не найгорш. З-за высокіх ацэнак настаўніцы раілі пайсці ў іншую, лепшую школу, але бацькі не падтрымалі. Пра ўніверсітэт я нават не думала. Закончыўшы вучобу, уступіла я ў шэрагі зарэгістраваных беспрацоўных.

## — Твае захапленні...

— У мяне іх некалькі, у тым ліку медыцына, а асабліва хірургія. Ужо ў дзяцінстве я спрабавала настаўляць паламаную руку ў сваёй малодшай сястры.

Аднойчы сусед маёй сяброўкі, стаматолаг, запрапанаваў мне працу асістэнткі ў сваім кабінеце. Спачатку я баялася, таму што нічога не ведала, але хутка навучылася. Неўзабаве запісалася на стаматалагічныя курсы. Маю працу ў стаматалагічным цэнтры і адукацыю фінансавала Бюро працы. Усё закончылася пасля двух гадоў з-за спынення фінансавання. Да завяршэння курсаў засталіся яшчэ тры гады. Ніколі мне гэта не атрымалася. На беспрацоўі запынілася я толькі на тры месяцы, зараз прынялі мне на працу ў кабінет крынскага стаматолага. Доктарка ўгаворвала мяне вярнуцца на вучобу, але ў выхадныя, бо якраз тады адбываліся заняткі. З Горкі ў Беласток не было аўтобусаў. На працу я хадзіла з ахвотай і пацыенты гэта адчувалі. Часта прыходзілі да мяне проста так, спаткацца і пагаварыць. Гэтая казка закончылася пасля трох гадоў, з хвілінай нараджэння першага дзіцяці. Працадаўца не прадоўжыла дагавору. Абяцала, што калі павысіцца стандарт яе жыцця,

# Тутэйшая нетутэйшая



прыме мяне зноў. Праз нейкі час трымала мяне нелегальна, пакуль нехта, з чыстай зайздрасці, не данёс.

Цікавілася я таксама замовамі. Прымусілі, як заўсёды, абставіны. Маме пачалі чарнець пальцы на нагах. Забралася я за медычную літаратуру і нарабіла сабе бяды. Гэта найвялікшае глупства ставіць дыягназ сваім блізкім. Чалавек губляецца, думае пра найгоршае. Начыталася я, між іншым, пра рожу. Тады жыла яшчэ мая хрышчоная маці з Мазураў, якая займалася замовамі. Яна мне сказала: «Ты найстарэйшая ў сям'і і я табе гэта перакажу». Так і было. Першы знахарскі эксперымент правяла я на маміных пальцах. Лён не гарэў, значыць, гэта не была рожа. Усё-такі хваробу я знайшла. Мае падазрэнні ў артэрыясклерозе пацвердзіліся ў медыцынскіх праверках. Потым замаўляла яшчэ адной жанчыне з маёй сям'і і атрымалася.

## — Не думала ты развіваць свой знахарскі талент?

— Я проста баюся. Гавораць, што гэта д'ябальшчына. Па-першае, я не доктар, па-другое, сапраўды трэба прысвяціць гэтаму шмат часу і намаганняў. Асноўнае — добра дыягназаваць, а калі не ўмееш, можаш пашкодзіць. Асабіста я не адчуваю ў тым ніякіх сувязей з чорнай магіяй. Усё абапіраецца на малітве, на нічым іншым, толькі на малітве. Чужым замаўляць ніколі не рызыкую. Баюся людскага языка, каб нечага кепскага пра мяне не сказалі.

## — Пачынаеш іграць на акардэоне, рыхтуешся да выступаў з «Заранкай».

— Знаёмыя кажуць, што я вар'ятка. Але гэта мара майго жыцця. Не ведаю скуль яна ўзялася. Мурашкі па скуры мне бегаюць, калі чую акардэон. На гэтым інструменце іграў Тадзік — брат майго бацькі. Калі я ехала да яго ў госці, заўсёды прасіла, каб зайграў. Цяпер сама прабую, не здаюся.

## — А ці не называлі вар'яткай, калі аддала ты сваю дачку ў беларускую «Заранку»? Гэта ж былі толькі пачаткі існавання калектыву, мясцовыя яшчэ не паспелі звыкнуць, што па-беларуску нават дзецям спяваць можна.

— Гэта мая справа куды пасылаю сваіх дзяцей. Пайшла я з дачкой на адзін з вашых («Заранкі») канцэртаў і ёй спадабалася. Нават калі б гэта быў татарскі ці яўрэйскі гурт, для мяне няма ніякага значэння. Калі б я ўмела спяваць, таксама б з вамі спявала. Навучуся іграць, мо і спеў неяк прыйдзе.

## — Ці робіш нешта для сябе?

— Калісь я любіла бегаць. Нават у прошлым годзе рашыла вярнуцца да ранішняй прабежкі. Суседзі смяяліся, дурной называлі. З гэтай пары я пакончыла з бегамі. Але кожнага дня паміж шостай і сёмай вечара зачыняюся ў пакоі і практыкуюся. Усе ўжо ведаюць, што нельга мне тады перашкаджаць.

## — Як жывецца ў Крынках?

— Спакойна. Толькі людзі нейкія двудушныя. Не ўсе, але такіх тут шмат. Надта прыслухоўваюцца плёткам і самі іх распускаюць. Часам паўстаюць цэлыя гісторыі быццам з «Тысячы і адной ночы».

Аська — намесніца старшыні бацькоўскай рады школы ў Крынках, а таксама намесніца старшыні крынскага вучнёўскага спартыўнага клуба. Гаспадарыць на трох гектарах зямлі і трымае 4 быкі. Марыць, каб пайсці на працу, вярнуцца да стаматалогіі. Ці нечага ў жыцці шкадуе? Абсалютна.

— Трэба знаходзіць шчасце ў дробязях, — тлумачыць. — Калі не будзеш цешыцца малым, ніколі не навучышся цешыцца вялікім.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

## Найлепшыя ў Нараўчанскай гміне

Пры нагодзе дажынак у Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета адбыліся, між іншым, гмінныя спаборніцтвы салэцтваў ды добраахвотных пажарных каманд.

У турніры салэцтваў перамагла каманда з Новага Ляўкова (солтысам у гэтым сяле ўжо другі тэрмін з'яўляецца Ян Целушэцкі). Новаляўкоўцы першынство заваявалі і ў мінулым годзе. Другое месца заняла каманда са Старога Ляўкова (у ёй абавязкі солтыса выконвае Яўген Бандарук). Трэцяе месца журы прызначыла камандзе з вёскі Янава (солтыс Мажэна Адамюк), чацвёртае месца — камандзе з вёскі Нараўка (солтыс Валянціна Пацэвіч) і пятае месца — камандзе з Падляўкова (шматгадовы солтыс у гэтай вёсцы — Віталь Сухадола).

У спаборніцтве добраахвотных каманд перамагла каманда са Старога Ляўкова, другое месца заняла каманда з Семяноўкі, трэцяе — з Альхоўкі і чацвёртае — з Нараўкі.

Дыпломы і грашовыя ўзнагароды ўручылі Мікалай Павільч — войт Нараўчанскай гміны і Анна Грэсюк — намесніца старшыні Гміннай рады.

(яц)

Фота Янкі Целушэцкага



Рака Нараўка, прыток Нарвы (на здымку каля Падляўкова Нараўчанскай гміны) зараз у бездаждлівае надвор'е высыхае...

## Завяршылася пабудова каналізацыі

Праект будовы водна-сцёкавай каналізацыі на «ўсходняй сцяне» ў Чаромсе (на вуліцах Вішнёвай, Лонковай, Пшыдварцовай, Вонскатаровай і Длугай), а таксама ў салэцтве Кузава ў рамках «Праграмы трансгранічнага супрацоўніцтва Польшча — Беларусь — Украіна на 2007-2013 гады» быў прад'яўлены ў 2011 годзе. Дамова на дафінансаванне праекта ў суме 3 841 757 еўра была падпісана 29 кастрычніка 2013 года. Рэалізацыя задачы пайшла шпаркімі тэмпамі. Неўзабаве выявілася значная эканоміка ў вартасці коштаў пачатковага каштарысу. Тады гміна падала заяву на пашырэнне інвестыцыйных работ на пабудову ачышчальні сцёкаў. Зямныя работы пры пабудове каналізацыі былі спынены ў зімовы перыяд. Да выканання завяршальных работ прадпрыемства «Зея» з Ломжы прыступіла 12 лютага 2014 г. Пратакол здачы будовы каналізацыйнай сеткі быў падпісаны 29 ліпеня 2015 г. Кошт будаўнічых работ склаў больш за 3 млн. зл. і 43 тыс. зл. інвестыцыйнага нагляду (90%) і быў пакрыты еўрасаюзнымі сродкамі. З гэтай сумы 10% вартасці інвестыцыі пакрыла гміна. Пабудова новай ачышчальні сцёкаў згодна праекту будзе закончана ў снежні гэтага года.

(ус)



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі

# Навука і пошукі магічнага свету



Калі самі вучні заахвочваюць сябе да навукі, няма лепшай рэкламы для школы! У гайнаўскай белгімназіі разумеюць гэта без лішніх слоў. З верасня працуюць два першыя, вялікія класы. Разам 58 вучняў. На першы погляд, іх цяжка адрозніць ад ліцэістаў.

— Яны — загледжаныя на старэйшых, — кажа спадарыня Ірына Ігнатовіч, — ды паводзяць сябе больш стрымана, не буяняць ужо як дзеткі. Гэта адчуваецца на школьным калідоры, дзе няма сляпой агрэсіі...

Спачатку гімназісты трэцяга «а» класа здаліся нам ажно занадта спакойнымі і тактоўнымі. На гэта паўплывала іх засяроджанасць і цікавасць да беларускіх тэм. Адной з незабыўных падзей у сваім жыцці гімназісты лічылі экскурсію ў Мінск. Моладзі пашанцавала. Іх класная выхавацелька, Анна Хомчук, штудзіравала ў Мінску. Яна добра ведала, што паказаць вучням. Аднак у час сустрэчы гімназісты хацелі гаварыць пра магічны свет Падляшша:

— А ці верыце ў вандроўку душ? — спыталі яны мяне.

Адкуль такія зацікаўленні?

Матыў «вандроўкі душ» яны знайшлі ў маёй кніжцы «Царская трызна». Там шмат увагі адводзіцца народным павер'ям, у тым ліку звязаным з абрадамі паховін і паміnаннем памерлых. Не менш чароўнымі, з пункту гледжання сённяшняга практычнага свету, могуць паказацца падляшскія старыя песні, казкі, легенды. У іх людзі размаўляюць з дрэвамі і звярамі, умеюць стаць кветкай, каменем, перамяніцца ў птушку...

Праўда, старажытны фальклор нельга блытаць з афіцыйным веравызнаннем. Гэта вытокі духовай культуры, якая на працягу стагоддзяў шмат памянялася і набыла іншае значэнне і асвятленне. Аднак напярэдадні восеньскага старажытнага абраду «Дзяды» (які ведаем таксама з польскай літаратуры) цікава паразважаць пра магічны свет беларускага фальклору.

**Зорка**
**фота Ганны Кандрацюк**

# Арабіна

Не чапай, чалавеча, арабіны,
Не ссякай заклятай дзяўчыны.
Кажуць, чырвоныя яе каралі —
Слёзы Евы, што з раю прагналі.
Тонкі ствол арабіны ўбірае
Усе нямогласці, што ў яе пасылаюць.
Калі шкоду арабінцы рыхтуеш,
Тыя болі на сабе ты адчуеш.
Моцны абярэг рабіна на плён і страх
Дае ў ягадах і ў крыжыках-лістках,
А калком арабінавым калі ўдарыш,
Вернеш ваўкалаку вобраз яго твару.
Ягадкі былі салодкія да часу,
Калі чорт не аказаўся такі ласы:
Агарчыў рабінавыя бубкі — ды і так
Пасля маразоў адчуеш яе добры смак.
А багаты арабіны плён
Восень мокрую прадбачваў ён:
«Калі чырванеюць арабіны,
То вада пойме аглабіны».
А калі не спеюць ягады рабіны, людзі,
Добрага лета, цёплай восені вам не будзе.
Можа ўсё яно так і бывала, і бывае.
А мы цешмася рабінавым ураджаем.

Міра ЛУКША


Урок беларускай мовы у Белавежы

(З БЕЛАРУСКАЙ МІФАЛОГІІ)

# АДКУЛЬ ВЯДЗЬМАК?

Жылі два суседзі – адзін бедны, другі багаты. Багаты быў чараўнік, а бедны – добры чалавек.

Бедны купіў каня і вывеў на пашу. Багаты пазайздросціў. Ён узяў тры нажы, утачыў у зямлю і пачаў куляцца. Перавярнуўся праз адзін нож – у яго галава зрабілася воўчая. Перакуліўся праз другі – увесь стан стаў воўчы. А калі перавярнуўся праз трэці нож, то і ногі зрабіліся як у ваўка.

Пераварэцень кінуўся на каня і задушыў жывёлу. Чалавек падгледзеў чары зайздроснага суседа. Ён выняў адзін нож з зямлі...

Бяжыць воўк назад і хоча адвярнуцца ў чалавека. Перакуліўся праз адзін нож – галава стала чалавечай. Перакуліўся праз другі – увесь стан стаў чалавечы. Перакуліўся праз трэці – а нож прапаў.

З той пары ў ваўкалака ногі воўчыя, бо не было трэцяга нажа.

Уршуля МАРЧУК, Гімназія ў Нараўцы

## Дзяды

Дзяды – свята памерлых,
гэта дзень успамінаў і думак,
думак пра сям'ю і сяброў.
Дзяды – дзень адышоўшых,
гэта час калі ідзем у госці
да тых, якія маўчаць,
хаця мы з імі не паспрачаліся.

Лукаш АНХІМ, ПШ у Міхалове

## Рак

Быў сабе рак,
Рак – цудак,
У лес хадзіў за грыбамі,
Частаваў усіх пірагамі.
Калі прыйшла зіма,
У норку схаваўся,
Бо снегу вельмі баяўся!

# РОЎНАСЦЬ СЯРОД ХВОРЫХ І ЗДАРОВЫХ

У той самы дзень, калі праходзіла наша сустрэча ў інтэграцыйным класе, сусветныя медыі агучвалі незвычайную навіну. Усе гаварылі пра падзею ў свеце моды. Мадлен Сцюарт, 18-гадовая манекеншчыца з хваробай Даўна, заваявала сэрцы гледачоў на ньюйоркскім „Fashion Week". Яе трыумф быў жаданым прызнакам роўнасці сярод людзей.

Інтэграцыйныя класы таксама ўзніклі з мэтай наблізіць хворых і здаровых дзяцей. Дадатковай вартасцю ў такіх класах з'яўляецца навучанне беларускай мове. Такі прыклад, як першая, ажыццявіла бельская «тройка». Практыка паказала, што дзеці з абмежаваннямі, як мала хто, адчуваюць гукі беларускай мовы, захапляюцца чароўнасцю беларускай культуры. Іх пазітыўны настрой вокамгненна перадаецца здаровай частцы класа. У мінулым годзе сярод вучняў інтэграцыйных класаў было шмат лаўрэатаў у прадметным конкурсе па беларускай мове (!). Гэта сапраўдны выклік і доказ пазітыву.



Вось і ў інтэграцыйным першым «а» класе з першага дня палюбілі беларускую мову.

— Дзеці ловяць кожнае слова, — кажа настаўнік Андрэй Мароз. — Яны захоплены беларускай мовай. Ужо рыхтуюцца да дэкламатарскіх конкурсаў «Трохгалоссе» і «Роднае слова». Вельмі любяць беларускія песні, гульні і казкі. У такі спосаб яны пазнаюць словы…

Пакуль дзеткам найбольш падабаюцца маляванкі, дзе пазнаюць колеры і ветлівыя словы.

— Бацькі вельмі цешацца, калі дзеці прыходзяць са школы і кажуць ім «Добры дзень!» і «Да пабачэння». Працаваць з такімі дзеткамі — чыстая радасць, — кажа настаўнік.

Ідэя інтэграцыйных класаў патрабуе большай прамоцыі і зразумення. Праца ў такім класе складаная, тут звычайна працуе двух настаўнікаў. Аднак, дзякуючы ім, свет ідзе ў лепшы бок, пашыраецца разуменне «іншага» чалавека. Такія выклікі спрычыніліся да сусветнага поспеху Мадлен Сцюарт. Манекеншчыца не мае комплексу непаўнацэннасці, наадварот, яна лічыць сваю хваробу козырам…

На жаль, частка дзяцей з абмежаваннямі звольнена з урокаў беларускай мовы. У тым жа першым «а» класе, дзе дзеткі так шчыра ўспрымалі беларускую мову, ажно пяць асоб не ходзіць на ўрокі беларускай мовы. Шкада! А што, калі нехта з тых вучняў заваюе сусветны поспех і не будзе ведаць як сказаць ветлівае слова па-беларуску?

**Зорка,**
**фота Ганны КАНДРАЦЮК**

## Вершы Віктара Шведа



### На занятках

Настаўнік на занятках
Занудзіў дзіцяткі.
А раптам за партай
Захроп страшэнна Бартак.

Настаўнік просіць Фрэда:
— Разбудзі суседа!
Вучань адказаў:
— Не я закалыхаў!

### У пясочніцы

У пясочніцы дзіцятка
Расцяло чарвяка лапаткай.
— Чаму ты так зрабіла,
Чарвяка распалавіла?

— Быў ён, мама, адзінокі
І не меў сяброў навокал.
А цяпер іх будзе двое
І жыццё будзе людское.

## УВАГА КОНКУРС! № 40-15

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 11 кастрычніка 2015 г., найлепш па электроннай пошце.
Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Працаўніца шчыравала,**
**Мех арэхаў назбірала.**
**І грыбоў шмат насушыла,**
**Спелых шышак нанасіла,**
**Прыхавала ўсё ў дупло,**
**Каб зімой на стол было.**
**В……**

**Хто,**
**Каб жыць,**
**Дзень і ноч**
**Бяжыць?**
**Ды так бяжыць,**
**каб усе іншыя**
**маглі жыць!**
**Р…**

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадкі № 33-15: дзік, іголка. Узнагароду, кніжку «Жыццядайныя крыніцы», выйграла Іаанна Савіцкая. Віншуем!**

## Польска-беларуская крыжаванка № 40-15

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 36:**
Школа, шар, рост, фон, лужа, так, вожык, вада, род, парк, рост, Анкара. Твор, шафа, крок, ват, вар, лодка, ружа, гожы, сакр, водар.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Вікторыя Гац**, **Эва Місяюк** і **Адрыян Андраюк**.
Віншуем!






# XVIII Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы

**Рэдакцыя „Нівы" і Беларускі саюз Рэспублікі Польшча аб'яўляюць XVIII Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы. У конкурсе будуць разглядацца працы грамадзян Польшчы на беларускай мове.**

**ПРЫНЦЫПЫ ЎДЗЕЛЬНІЦТВА**

**1.** Конкурс праводзіцца ў дзвюх узроставых групах:

— I група: дзеці і моладзь пачатковых школ і гімназій,

— II група: астатнія ўдзельнікі (выключна аўтары, якія не з'яўляюцца членамі літаратурных творчых саюзаў).

**2.** У рамках груп конкурс праводзіцца ў дзвюх катэгорыях: паэзіі і прозы.

**3.** Конкурсныя працы, набраныя на камп'ютары або разборлівы рукапіс у двух экземплярах (паэтычныя творы — 3-5 вершаў, іншыя літаратурныя формы — аб'ёмам да 22 старонак стандартнага машынапісу) трэба падпісаць крыптанімам, пазначыць нумарам узроставай групы і пасляць на адрас: Redakcja „Niwy", ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok 2, skr. poczt. 84 з прыпіскай на канверце: XVIII Ogólnopolski Konkurs Poezji i Prozy Białoruskiej.

**4.** Прозвішча, імя і дакладны адрас аўтара дасланых конкурсных прац трэба памясціць у асобным заклееным канверце, падпісаным звонку такім нумарам групы і крыптанімам, як і конкурсныя працы.

**5.** На конкурс трэба дасылаць творы, якія дагэтуль нідзе не друкаваліся і не ўзнагароджваліся на іншых конкурсах.

**6.** Арганізатары не вяртаюць дасланых твораў.

**ТЭРМІНЫ**

**1.** Тэрмін дасылання да 16 лістапада 2015 г. (вырашае дата паштовага штампа).

**2.** Вынікі конкурсу будуць аб'яўлены ў снежні 2015 г.

**3.** Уручэнне ўзнагарод адбудзецца на адмысловай сустрэчы. Аб тэрміне мерапрыемства лаўрэаты і астатнія ўдзельнікі конкурсу будуць паінфармаваны і запрошаны прыняць у ім удзел.

Конкурс праводзіцца дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністра адміністрацыі і лічбавізацыі.



Славамір КУЛІК

## Надзея

*Нада мною мільёны зор*
*Пада мною адзіная зямля*
*Як не кахаць гэтага свету*
*Як не жыць надзеяй*

*Нада мною блакітныя мары*
*Вакол мяне зялёны рай*
*Як не кахаць гэтага краю*
*Як не будаваць шчаслівай*
*будучыні*

## Дрэва

*Стаіць дрэва як паэзія*
*На адным ствале*
*разнастайнасць*
*Смуглае яно і пушыстае*
*Вось якая фінезія*

*Стаіць дрэва як чалавек*
*Раскінула рукі на ветры*
*Цяжка трымаць іх у паветры*

*Стаіць дрэўца і стаіць*
*Перад чым яно дрыжыць?*

## Пошукі

*Птушкай лячу ў мары*
*Непатрэбны мне чужыя арэалы*
*Толькі прыязнае сэрца*
*Толькі пяшчотныя рукі*

*Сокалам гляджу за хмары*
*Там толькі холад, нябыт*
*Шукаю вобразаў дзяцінства*
*Хачу пачуць голас маці*

*Голубам лячу ў пошуках*
*Непатрэбны мне Мангатаны*
*Шукаю сіняга дыму*
*Над старэнькай хацінай*

## Родная мова

*Родная мова ўзбагачае свет*
*Як кветка фарбуе рабатку*
*Родная мова цешыць вуха*
*Як наступная скрыпка*
*ў аркестры*

*Родная мова ўзбагачае*
*рэчаіснасць*
*Як новы колер размалёўвае*
*карціну*
*Роднае слова мілае мне*
*Як спеў жаўрука*
*на веснавым небе*



Міхал КУПТЭЛЬ

## Рассыпаныя думкі

*Рассыпаліся думкі*
*словы*
*Каб толькі ўспець*
*іх злавіць*
*запісаць*
*Каб вецер часу*
*іх не згубіў*

*Чаму іх трэба зберагчы?*
*Не ведаю*
*Можу таму каб*
*унукі прачыталі*
*пра дзедаву мінуўшчыну*

## Нуда

*Мяне Нуда не хапае*
*Хоць павінна*
*Бо жыццё як бы за мной*
*І час спакойны ўжо прыйшоў*
*І розум ужо не той*
*І ўсё агульна*
*як бы не тое*
*што калісь было.*

*Аднак.*
*Тое штосьці*
*не дае спакою*
*як калісь.....*
*нават спаць перашкаджае.*

*Затым*
*Упэўнена магу сказаць*
*Што нуда мне*
*не страшна.*

## Лірычны джаз

*У кафэ Кінскій*
*Як у Валодзі*
*пад лесам*
*побач Пушчы*
*Як у сне*
*без квакання рэчаіснасці*
*Круглыя гукі кругом*
*бы тая гронка*
*чырвонага вінаграду*

## Вясной

*Вясна мільганула*
*як жыццё сеньёра*
*Маем успыхнула*
*пад сонечным ранкам.*

*Калі прачнуўся*
*са сну старэча,*
*а там*
*за акном зялёная*
*жыццёвая сцяна лесу.*

*Нават салавей не ўспеў*
*свой трэль пачаць*
*— як заўсёды.*

* * *

*Божа мілы!*
*Маю верш напісаць.*
*Такую атрымаў я задачу!*
*А верш напісаць*
*Рэч не простая.*
*Можа, вясною?*
*Разам з прыродай*
*натхненне паэта збудзіцца?*

*Словы на паперы*
*зусім іншыя чым*
*у віртуальнай прасторы.*
*Так папраўдзе гэта не словы*
*а цыфры, нават біты.*

*Затым дзе тут паэзія?*
*Калі верш*
*з'яўляецца ўлётным бітам?*
*Адным клікам*
*— няма верша.*

*І пішу далей,*
*пішу без бітаў, цыфр*
*друку*
*каб хоць нейкі*
*след застаўся.*



Ірэна ЮРЧУК

* * *

*Душа мая расчульвалася ад болю*
*Ела хлеб смутку*
*і жыла ў цемры*
*Я не спала і сядзела*
*Як адзінокая птушка на страсе*

*Піла слёзы дзень і ноч*
*Увесь час выклікала Цябе*
*Ты Божа пачуў рыданне маё*

*Падмацаваў маю душу*
*І ўзяў за правую руку...*

* * *

*Сяджу адна, задумана*
*Праменне сонца*
*Асвятляе мой твар*
*Успамінаю пра мінулае каханне*
*Якое даходзіла да нябёс...*

*Усё прамінула*
*Як палявая кветка*

* * *

*Царква — магічнае месца на зямлі*
*Дзе можна шчасце знайсці*
*Душа атрымоўвае падмацаванне*
*І моцнае перажыванне*
*Царква — каштоўная жамчужына*
*Спевам яе я моцна ўзрушана*
*Тут можна маліцца, маўчаць*
*І немым крыкам крычаць*

# Каля Саколкі

**У Старой Каменцы найперш кідаецца ў вочы даўно апусцелае буслінае гняздо. Гняздо тое было калісь замацаванае на асобным бетонным электраслупе. Чаму буслы пакінулі тое месца — гэта іхняя тайна. І такія парэшткі гнязда выклікаюць свайго роду сум, бо ж бусел у нас лічыўся вельмі паважанай птушкай.**

Зыгмунт Глогер так быў калісь пісаў пра бусла: „Bocian, po łac. ciconia, w języku ludowym zwany także boćkiem, busłem, wojtkiem, a dawniej i księdzem Wojciechem. Ptak ten, jako gady, płazy i robactwo niszczący, pozyskał opiekę u ludów słowiańskich i w Polsce stał się napół domowym. (...) Obecnie nigdzie w całej Europie nie jest tak licznym, jak w wioskach nad Bugiem położonych, gdzie często ilość gniazd bocianich przenosi kilkakrotnie liczbę chat i gdzie gniazda te znajdują się nietylko na wysokich i nizkich drzewach, ale także na dachach chlewków i sklepków. „Bociana sprowadzić” — znaczyło szczęście sprowadzić na swój dom. To też zarówno u szlachty jak ludu zaciągano w tym celu na szczyty dachów i wierzchołki drzew stare brony i koła wozowe z wiechciem barłogu, a niekiedy i jakimś błyszczącym przedmiotem. Na Mazurach utrzymuje się podanie, że Chrystus Pan jakiegoś obmówcę zamienił w bociana i kazał mu odtąd świat z plugastwa oczyszczać”. А ў беларускім моўным абшары называлі гэтую птушку буськом, бухалам, бацянам, чарнагузам, гарусам, весяльцом, весялком, клекатуном... Пра фальклорную ролю буслоў у дэмаграфічнай дынаміцы кожны тутэйшы, мяркую, ведае. Магчыма, што і на самой справе нейкая колькасная карэляцыя буслоў з людзьмі ёсць...

Старая Камянка адлеглая ад Саколкі каля пяці кіламетраў, таму вёска выглядае імуннай да агульнага ў нас дэмаграфічнага рэгрэсу. Сакольскі гмінны дакумент: „Stara Kamionka znajduje się na terenie ukształtowanym przez lodowiec, leży w otoczeniu obszarów leśnych, posiada niezwykle piękny krajobraz, czyste powietrze, brak przemysłu oraz staropolską gościnność. Na temat historii pochodzenia miejscowości Stara Kamionka brak jest informacji źródłowych i opracowań mogących nakreślić rys historyczny tej podsokólskiej wsi. Brak jest także przekazów historycznych związanych z historią powstania wsi. Ze względu na położenie na ważnym szlaku komunikacyjnym, we wsi Stara Kamionka na odpoczynek zatrzymują się pielgrzymi w trakcie pieszych pielgrzymek do Różanegostoku i Wilna. W miarę potrzeb pielgrzymi zatrzymują się na odpoczynek i nocleg w Klubie Wiejskim, w okolicznych domach, co podnosi rangę i znaczenie wsi Stara Kamionka jako miejscowości odwiedzanej przez turystów, do których należy również zaliczyć pielgrzymów. Ze względu na dogodne położenie komunikacyjne i dużą liczbę mieszkańców wsi, budynek Klubu Wiejskiego służy mieszkańcom jako „Kaplica”, gdzie w okresie od jesieni do wiosny odbywają się msze święte, jest więc miejscem kultury duchowej mieszkańców wsi”. Прыгожае апісанне...

У вёсцы працуе таксама пачатковая школа з дашкольным аддзяленнем, ёсць згаданы вясковы асяродак культуры, крама... Вось перад крамай, пад раскідзістай яблыняй, своеасаблівая грамадская ўстанова, пра якую ў афіцыйным дакуменце не згадваецца, з дванаццаці ўкапаных у зямлю аўтамабільных пакрышак, якія служаць там для сядзення сабранаму побач крамы народу. Пакрышак гэтых столькі ж, што і гасцей на Апошняй вячэры, яны ў роўным радочку — як апосталы на кананічных малюнках, напрыклад, у Леанарда да Вінчы, а крайняя з шын перакулена, быццам пакінуў яе нейкі тамашні стукач. Пад яблыняй байкаваты ўмяшчальнік, запоўнены роўна з берагам бутэлькамі са светлага шкла, значыць у тамашняга народу крэпкія галовы. Крышку далей, за плотам, „стол” на двух слупах і лавачка побач яго, пад якою тара з-пад піва — там, відаць, забягалаўка менш прэстыжнай катэгорыі...

Да школы, якая працуе ў двухпавярховым будынку, пабудаваным ў 1938-1940 гадах, набліжалася групка дашкольнікаў пад апекай дзвюх настаўніц. Дзеткі, пабачыўшы мяне, амаль аднагалосна павіталі мяне ветлівым „Дзеньдобры”. Не ўяўляю такога прывітання ў горадзе, дзе ўсе сабе ў прынцыпе чужыя. А ў традыцыйнай вёсцы ўсе па сутнасці знаёмыя і вітаюцца. І такой ветлівасці навучаюць таксама дзяцей...



■ Каплічка ў Більвінах




■ Табліцы перад крыжом у Ігрылах



■ Каплічка ў Высокіх Лясках з 1945 года

На адным з панадворкаў пабачыў я вельмі пажылую жанчыну, змагаючуюся з не надта ёй паслухмяным калаўротам калодзежа. Яна заўважыла мяне, здагадалася, што я хачу ёй дапамагчы. Выцягнуў я вядро, аднак згаварыцца з ёю не змог — яна ўжо нічога не чула. А хацеў я яе распытаць пра ейную хату, якой шчыты і падшчытнік былі аздоблены вельмі вытанчанай ажурнай „карункай”. З суседняга панадворка назірала іншая жанчына, да якой я падаўся за цікавячай мяне інфармацыяй. І даведаўся, што тая арыгінальна аздобленая хата можа мець больш за сто гадоў. А яе гаспадыня жыла раней разам з сястрою, і калі праклададлі ў вёсцы водаправод, яны не захацелі падключаць да яго сваёй хаты, мяркуючы, што памруць больш-менш аднachасна. Аднак адна з іх памерла каля дзесяці гадоў таму, а той, што асталася, прыходзіцца змагацца з жыццёвымі патрэбамі ў адзіночку... Выгляд хаты паказваў, што продкі сясцёр былі багатымі людзьмі і тыя сястрычкі мо занадта перабіралі ў кавалерах. І сталася, мабыць так, як у папулярнай песні „Ой хацела мяне маць...”.

На трасе майго маршруту аказалася шмат крыжоў і каплічак. Вось у Старой Каменцы большая мураваная капліца між вуліцай і школай. У канцы вёскі, што з боку Вярхлесу, мураваная каплічка, аздобленая камянямі, як і выпадала б у Каменцы. Некаторыя каплічкі руплівa выдзеўбаны з калод, іншыя збіты з дошак. Пра вёскі мала згадак у даўнім Геаграфічным слоўніку Каралеўства Польскага: „Kamionka Nowa, wś w pow. sokólskim, o 3 w. od Sokółki; K.-Stara, wś w pow. sokólskim, o 5 w. od Sokółki, chat 100; Pawełki, wś, pow. sokólski, gm. Kamionka, 341. dz.; Bilwiny, wś i okolica, pow. sokólski, gm. Kamionka, 7 w. od Sokółki. Wś z urocz. Siemionowszczyzna ma 53 dzies., okolica 88 dzies.; Słojniki, wś, pow. sokólski, gm. Kamionka o 5 w. od Sokółki”.

Варта спыніцца пры апошняй вёсцы; у ёй нарадзіўся Дамінік Аніська. Вікіпедыя: „Аніська Дамінік (7.1.1888, в. Слойнікі Сакольскага пав. Гарадзенскай губ., цяпер Падляскае ваяв., Польшча — 28.12.1971, Лёндан, Вялікабрытанія), бел. рэлігійны і грамадскі дзяяч, публіцыст. Скончыў расейскую пачатковую школу ў в. Яноўшчына (Сакольскі пав.), у 1906 — гарадзкую школу ў Саколцы. У 1907-09 служыў у расейскай арміі. Аўтар віленскай газ. „Беларус”. Ваяваў у 1-ю сусьветную вайну ў складзе расейскай арміі. Вярнуўшыся ў родныя мясьціны ў 1918, быў мабілізаваны ў польскае войска. З 1923 афіцэр запасу. Браў удзел у бел. рэлігійным і грамадзкім руху, быў аўтарам бел. каталіцкага час. „Хрысьціянская думка”. Выдаў некалькі брашур: „Да беларускага народу”, „Усё ў міласьці”. У 1939 мабілізаваны ў польскае войска. Да 1940 знаходзіўся ў Літве. Быў арыштаваны бальшавікамі, спачатку знаходзіўся ў лягеры ў Казельску, пасьля — у Валагодзкай вобл. У 1942 уступіў у армію генэрала Андэрса, разам зь ёю выйшаў у Іран, а адтуль у Палестыну. З 1949 жыў у Вялікабрытаніі. Быў аўтарам бел. рэлігійнага час. „Божым шляхам” (Парыж-Лёндан)”. Пра Дамініка Аніську пісалі таксама Сяргей Чыгрын у кнізе „З Беласточчыны родам” і Уршуля Шубзда ў 26-м нумары „Нівы” з 2012 года. Вось фрагмент апошняга артыкула: „Дамінік у адной з гутарак сказаў, што ў будучыні зробяць штосьці такое, калі кожны чалавек у сваёй хаце будзе мог паглядзець, што робяць у Амерыцы”. Прадказанне гэтае было абнародавана ў міжваенны перыяд...

Са Слойнік направіўся я ў Высокія Ляскі, адкуль задумаў цераз Яноўшчыну дабрацца да сакольска-беластоцкай шашы. Аднак ва ўзгорках Сакольскага ўзвышша ўдалося мне збіцца з запланаванай дарогі і апынуцца ў вёсцы Ігрылы. Згаданы Слоўнік даволі лаканічна згадваў пра гэтыя вёскі: „Wysokie Laski, wś, pow. sokólski, w 3 okr. pol., gm. Kamionka, o 5 w. od Sokółki, 117,5 dzies. ziemi włośc. i 4,5 dzies. prywatnej.; Ihryły, wś, pow. sokólski, gm. Kamionka, 6 w. od Sokółki, 255 dz.”. Апошняя вёска адметная сваёй гісторыяй, якая пасрэдна тлумачыць і назву мясцовасці. Партал Міністэрства сельскай гаспадаркі: „Korzystając z przychylności Podlasian pod koniec XVIII wieku na podstawie Uniwersału Komisji Obojga Narodów na terenie powiatu sokólskiego w kilku wsiach osiedlili się Cyganie. Uniwersał zapewniał społeczności cygańskiej prawa obywatelskie i okres 12 miesięcy na osiedlenie się w wybranym przez nich miejscu. Nasi przodkowie obrali za miejsce osiedlenia wieś Igryły, szlachta podlaska i miejscowi chłopi nie protestowali przeciwko cygańskim sąsiadom, ponieważ było bardzo duże zapotrzebowanie na usługi kowalskie. Cyganie ze wsi Igryły swoją odrębną kulturę i zwyczaje pielęgnowali przez dłuższy czas i do dziś mieszkają w tej miejscowości ich potomkowie piątego i dalszego pokolenia. Przez okolicznych mieszkańców określani są jako „wieś cygańska”. Natomiast w pozostałych wsiach społeczność cygańska szybko się zasymilowała i wtopiła się w społeczeństwo większościowe tj. miejscową ludność. Dziś nawet nie wiedzą, że są potomkami romskimi”.

Партал Baszko.pl дадае да гэтага „Wędrujące tabory cygańskie do lat 70 ubiegłego wieku zatrzymywały się na skraju kompleksu leśnego wsi Igryły rozbijając swoje obozowiska. Zatrzymanie taborów cygańskich nastąpiło 23 marca 1964 roku, ale pomimo zakazu Romowie jeszcze wędrowali do 1970 roku. Mężczyźni taborowi wspólnie z miejscowymi potomkami osiedlonych Cyganów handlowali końmi na pobliskim targu w Sokółce. Natomiast kobiety zajmowały się wróżbą po wsiach, otrzymując w zamian kury i inne płody rolne. Po udanych transakcjach handlowych urządzano w obozowisku wspólną biesiadę. Przed namiotami rozpalano ogniska i w kociołkach gotowano danie mięsne z kury z warzywami i grzybami. Ze względu na licznych biesiadników kociołek musiał być dużej pojemności. W obozowiskach nie zabrakło grajków, wspólnie tańczyli i śpiewali”. Як жа ж інакш, як не Ігрылы, магла называцца такая вёска?..

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Мацэвы трапілі на сваё месца

**Гміна Янаў, што на Сакольшчыне, вырашае справу мацэваў, знойдзеных непадалёк вёскі Трасцянка. Некалькі надмагільных пліт пасля Другой сусветнай вайны было выкарыстаных пры пабудове дарожнага канала. Гэтая справа вельмі парушыла так яўрэйскія асяроддзі, як і мясцовую грамадскасць.**



Менавіта год таму пры перабудове дарогі Саколка — Янаў высветлілася, што ў канале пад дарогай знаходзяцца яўрэйскія надмагіллі. Дзякуючы мясцовым жыхарам і сродкам масавай інфармацыі, справай заняліся таксама гмінныя ўлады. Пры нагодзе памераў перад рамонтам дарогі ў Трасцянцы адзін з жыхароў вёскі паінфармаваў, што якраз у канале відаць надпісы на старажытнаяўрэйскай мове. Аднак ніхто справы не кранаў, да моманту, калі ў вёску прыехаў геадэзіст. Тады старэйшыя людзі, якія памяталі яшчэ будову дарогі, звярнулі ўвагу, што была яна зроблена пры выкарыстанні мацэваў. Справа хутка трапіла ў СМІ і парушыла лакальную грамадскасць.

Ад самага пачатку заснавання горада, а гэта было ў 1712 годзе, пачалі сяліцца ў ім яўрэі. Першая сінагога была пабудавана ў 1740 годзе. Для прыкладу 35 гадоў пазней у мястэчку было 50 сядзіб хрысціянскіх і 48 яўрэйскіх. А некалькі гадоў пазней яўрэйскіх дамоў было болей, чым хрысціянскіх, і такая прапорцыя ўтрымлівалася да 1941 года. На пачатку XIX стагоддзя на 1500 жыхароў, больш чым тысячу складалі яўрэі. А пасля 17 верасня 1939 года ўключна з бежанцамі-яўрэямі, было іх усіх аж дзве з паловай тысячы. Мястэчка Янаў славілася сваёй цікавай у архітэктурным плане сінагогай, узведзенай у 1740 годзе, а знішчанай у час нападзення Нямеччыны на Савецкі Саюз.

Яўрэйскія могілкі ў Янаве былі заснаваны на плане прастакутніка ў канцы XIX стагоддзя. Размешчаны яны ў паўночнай частцы вёскі, здалёк ад будынкаў, сярод палёў. Плошча — каля 1 гектара. Падчас Другой сусветнай вайны каменны плот, якім былі абгароджаны могілкі, быў разабраны і выкарыстаны як матэрыял для пракладкі дарогі ў Карыцін. Гранітныя надмагіллі таксама былі выкарыстаны мясцовым насельніцтвам для падрыхтоўкі тачыльных камянёў для вастрэння гаспадарчых прылад. Да сёння захавалася каля 200 надмагілляў, аднак надпісы на іх амаль неразборлівыя. Недагледжаны могільнік парос зеллем. Шматлікія надмагіллі часткова паглыбляюцца ў зямлю, некаторыя паваленыя. Месца не нагадвае могільніка, на якім, у час дакументацыйных прац, праведзеных у 80-х гадах XX стагоддзя, было амаль 400 надмагілляў.

Люсі Лісоўская, прадстаўніца яўрэйскай абшчыны Варшавы на Беласток і Падляшша, здзіўленая і абураная.

— Гэта сумна, што могілкі не шануюцца. Яўрэйскія надмагіллі часта бывалі апаганенымі, — са шкадаваннем сказала Люсі Лісоўская, дзякуючы намаганням якой надмагіллі з водапрапускной трубы трапілі на кіркут у Янаве.

— Мая галоўная задача — дагледзець могільнік, — кажа мясцовы дзеяч Лех Крук. — Я хацеў бы, каб гэтае месца было ўпарадкаванае. Каб кожны, хто хацеў бы вывучыць гісторыю Янава, мог таксама заглянуць у гэтае месца і даведацца пра вялікую яўрэйскую дыяспару, якая жыла тут да Другой сусветнай вайны. На памяць аб ёй застаўся толькі той забыты могільнік.

Яшчэ ў гэтым годзе Лех Крук у супрацоўніцтве з яўрэйскай абшчынай хоча пачаць рамонт агароджы. Браму ўжо паставіў самастойна. Таксама вядзе працы па ўпарадкаванні парослых зеллем фрагментаў кіркута.

Вернутыя мацэвы трапілі на яўрэйскі могільнік у Янаве. Пакуль што, яны пакладзены на адно месца пры браме кіркута. Аднак, як падкрэслівае Люсі Лісоўская, далей будуць вяліся працы з мэтай добраўпарадкавання вернутых мацэваў.

**Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ**




Сёння Беларусь знаходзіцца ў перыядзе так званых прэзідэнцкіх выбараў. Так званых — бо насамрэч аніякіх выбараў у Беларусі няма, ёсць толькі мерапрыемствы пра працягненню ўлады Аляксандра Лукашэнкі, які ўжо больш за 21 год запар правіць краінай, узурпіраваўшы свае паўнамоцтвы. Гэта, канешне, своеасаблівы беларускі феномен, які праз нейкі час будуць даследаваць палітолагі, гісторыкі, грамадствазнаўцы і іншыя навукоўцы. Але сёння час усебаковага асэнсавання і даследавання гэтых падзей яшчэ не надышоў, бо пакуль невядома, што і чым скончыцца. У сваю чаргу навуковая думка не хоча чакаць, спрабуе прааналізаваць і зрабіць прагноз таго, што будзе з беларускай краінай, на падставе існуючых ведаў і фактаў. Менавіта яны і ёсць прадметам абмеркавання Пятага міжнароднага кангрэса даследчыкаў Беларусі, што 2-4 кастрычніка пройдзе ў літоўскім Коўне.

Каб больш даведацца пра гэтае мерапрыемства, што ўжо пяты год запар ладзіцца ў Літве, варта зазірнуць на сайт Кангрэса. Месціцца ён у інтэрнэце па адрасе http://icbs.palityka.org.

Паколькі сайт мае выключна практычнае значэнне — данесці інфармацыю пра мерапрыемства, то ў першую чаргу яго будзе карысна наведаць маладым навукоўцам з мэтай далейшага магчымага ўдзелу ў Кангрэсе. Таксама інфармацыя аб мерапрыемстве будзе цікава ўсім тым, хто цікавіцца даследаваннямі Беларусі і беларускага народа. «Кангрэс заснаваны прадстаўнікамі беларускай і літоўскай грамадскасці як штогадовае публічнае мерапрыемства, арыентаванае як на інтэлектуальную супольнасць, так і шырокія грамадскія колы Беларусі і іншых краін: экспертаў, журналістаў, грамадскіх дзеячаў, студэнтаў і г.д. Кангрэс ініцыяваны для інтэграцыі даследчыкаў і экспертаў у палітычнай, сацыяльнай і гуманітарнай сферах, а таксама для спрыяння больш глыбокаму разуменню Беларусі ў акадэмічных і грамадскіх асяродках краін рэгіёну і свету», — распавядаюць арганізатары мерапрыемства на старонцы «Пра Кангрэс».

Паколькі сайт, як і належыць міжнароднаму кангрэсу, мае тры моўныя версіі — беларускую, літоўскую і англійскую, то з гэтай інфармацыяй могуць азнаёміцца людзі, што ведаюць хаця б адну з іх. Дарэчы, асноўнымі працоўнымі мовамі Кангрэса з'яўляюцца беларуская і англійская (на гэтыя мовы будзе ажыццяўляцца сінхронны пераклад пленарных і сумесных пасяджэнняў). Дадатковыя ж мовы камунікацыі — літоўская, польская, руская. Дакладчыкі могуць прадстаўляць тэзісы і рабіць даклады на беларускай, англійскай, літоўскай, польскай і рускай мовах.

Адным з цікавых момантаў Кангрэса з'яўляецца тое, што на ім прысуджаецца прэмія. Пра яе распавядаецца на старонцы «Прэмія Кангрэса». Гэтую ўзнагароду можна атрымаць па адной з некалькіх намінацый — гісторыя, гуманітарныя навукі і сацыяльна-палітычныя навукі. Па кожнай з намінацый свае думкі і меркаванні выказваюць спецыяльна падабраныя эксперты.

Аналізуючы праграму Кангрэса, спіс экспертаў, узнятыя пытанні, варта адзначыць, што месца данаму мерапрыемству павінна быць у Беларусі. Праўда, у сённяшніх умовах гэта наўрад ці магчыма. І такая акалічнасць, магчыма, калісьці таксама стане прадметам даследавання.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з календара



### Сын камбатанцкага палка

# 10 гадоў з дня смерці Зміцера Кісяля

Беларускі грамадскі актывіст і журналіст Зміцер Кісель нарадзіўся 24 траўня 1963 г. у Гродне. Дзяцінства было няпростае. Ягоныя бацькі пасля рэпрэсій за антысавецкую дзейнасць былі рэабілітаваны толькі ў 1960 г. Уладзімір Кісель, бацька Зміцера, быў настаўнікам, удзельнікам антысавецкага падпольнага руху. Арыштаваны ў 1949 г. у Гродне, прайшоў канцлагеры і турму. У няпросты час пасля вызвалення сям'і дапамог Апанас Цыхун, які не пабаяўся паспрыяць Уладзіміру Кісялю з працай. Зміцер вельмі любіў сваіх бацькоў, хоць з іншага боку іх гераічнае мінулае накладала на яго пэўны комплекс сваёй меншай вартасці. Дзіму вельмі любілі таксама сябры яго бацькоў — вязні савецкіх канцлагераў. Ён быў гэткім сынам «гулагаўскага» камбатанцкага палка. Пра яго з вялікай цеплынёй гаварылі многія беларускія ветэраны.

Зміцер Кісель атрымаў у сям'і беларускае выхаванне. Скончыў сярэднюю школу, захапляўся ветразевым спортам. Пасля вучыўся завочна на гістарычным факультэце Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Яшчэ ў студэнцкі час пасябраваў з беларускімі актывістамі Беласточчыны — Яўгенам Вапам, Міхасём Андрасюком, Міколам Ваўранюком, Янкам Морданем, запрашаў іх у горад над Нёманам.

У сярэдзіне 1980-х гадоў, калі прыйшла перабудова і пачалося нацыянальнае Адраджэнне, Зміцер Кісель актыўна ўключыўся ў грамадска-асветніцкую дзейнасць. Узначальваў навуковую суполку моладзі імя Максіма Багдановіча, якая гуртавалася пры музеі паэта. Ідэя выдаваць уласную газету ў сяброў суполкі нарадзілася перад Калядамі 1988 г. У госці да іх прыехалі тады Янка Мордань і Надзея Артымовіч. Пра сваё выданне размова пайшла ў час сустрэчы ў музеі Багдановіча. Мінчукі тады ўжо мелі газеты і гарадзенцы вырашылі, што і ім час стварыць сваё выданне. Спрачаліся вакол назвы газеты: Зміцер прапаноўваў «Гарадпічанка», хтосьці іншы — «Гарадніца», але ў рэшце перамагла прапанова мастака Міхася Баярчука — «Рэанімова». Першы нумар газеткі выйшаў на пачатку 1989 г. Яго адметнасцю было тое, што там упершыню ў беларускім друку з'явіліся словы і ноты гімна «Магутны Божа», перададзеныя беластоцкімі беларусамі. На выданне сябры суполкі імя Максіма Багдановіча збіралі свае грошы. Беларускія газеты друкаваліся тады ў Літве. У адной з камуністычных газет у Вільні працаваў беларускі хлопец, які і дапамагаў. Нумары на машынцы набірала Данута Бічэль, затым рабілі макет і везлі ў Вільню.

У 1995 г. на гарадскіх могілках у Свіслачы была адшукана магіла Віктара Каліноўскага — ідэолага нацыянальнага руху і старэйшага брата Кастуся Каліноўскага. Кісель разам з сябрамі займаўся аднаўленнем магілы і памятнага крыжа. Неўзабаве па прапанове Гродзенскіх філій партыі Грамада (БСДГ) і грамадскага аб'яднання «Фонд імя Льва Сапегі» (актыўным сябрам якіх быў Кісель), якія былі першымі арганізатарамі масавага ўшанавання памяці загінуўшых змагароў, Дзень памяці паўстанцаў 1863 годаператварыўся ў агульнанацыянальны фэст.

Зміцер Кісель нейкі час узначальваў гродзенскую філію БАЖ, друкаваўся ў «Пагоні», «Ніве», працаваў для Радыё Рацыя. Асабістае жыццё, аднак, не склалася, а палітычная сітуацыя ў краіны прывяла да псіхалагічнага надлому і хваробы на алкагалізм.

Памёр Зміцер Кісель 30 верасня 2005 г., пахаваны на гарадзенскіх могілках па праспекце Касманаўтаў.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Роднае на палатне і ў скульптуры

На Чатырнаццаты мастацка-скульптурны пленэр у Гайнаўку, які пачаўся 14 верасня, прыбыло два дзясяткі мастакоў з Польшчы і з замежжа. Два тыдні творчай пабыўкі мастакоў у Нараўцы сарганізавалі Саюз мастакоў і творцаў прыкладнога мастацтва і Гмінны асяродак культуры ў Нараўцы пры вялікім спрыянні войта Нараўчанскай гміны Мікалая Павільча. Камісарам пленэру і выстаўкі, якая адкрылася 25 верасня, быў вядомы мастак і педагог Данель Грамацкі з Гайнаўкі. З Гайнаўкі прыбыў на творчую сустрэчу мафусаіл тутэйшых актыўных мастакоў Віктар Кабац (нядаўна адсвяткаваўшы сваё 80-годзе і 60-годдзе творчай працы). Удзельнічалі ў пленэры Марко Сапёлка, Станіслаў Асташэўскі, Цэцылія Сол'ян, Альжбета і Аляксандр Гжыбэк ды наймалодшы ўдзельнік Радаслаў Мацівеч з Беластока, Раман Хаінка з Зялёнай-Гуры, Майка Зузанская з Лэнчнай, Павел Карпюк з Любліна (нараўчанін па паходжанні), Малгажата і Багдан Самборскія з Ясла, Ядвіга Памяноўская-Вільдэ з Кладавы, Анна Вонсікевіч з Влоцлаўка, Андрэйс Северэтнікоўс з Рыгі (Латвія), Валянцінас Ванас з Коўна (Літва) і вядомая графічка з Мінска Святлана Рыжыкава. Некаторыя з іх ужо пабывалі на пленэрах у Нараўчанскай гміне, пакідаючы пасля на сваіх працах след ад тутэйшага краявіду і духу, а назаўджы свае творы ў шторах больш багатых зборах галерэі імя Тамары Саланевіч, дзе па выніках пленэраў адбываюцца выставы, збіраючыя шматлюдна аматараў мастацтва. У гэты раз на пленэры (25.09.) залы былі асабліва запоўнены наведвальнікамі-аматарамі мастацтва, самаўрадаўцамі, палітыкамі і звычайнымі ахвотнікамі паглядзець цікавае мастацтва, што змаглі дабрацца ў Нараўку, сталіцу гміны чатырнаццатую сярод найлепшых у краіне, адцятую ад свету ваяводскімі ўладамі. Ехаць у Нараўку з Беластока трэба найчасцей праз Гайнаўку... Застаніцца працы ў Нараўцы не толькі ў памяшканні галерэі — скульптуры каменныя і драўляныя будуць стаяць у відным месцы, каля новых начлежных дамкоў на Байдарачнай прыстані над ракой Нараўкай. Сапраўды, недалёка трэба было шукаць цікавага месца для малявання — хапіла толькі абярнуцца пасярод мястэчка, і маюцца такія прыгожыя віды, не заўсёды бачныя простым вокам наведвальніка гэтай каларытнай прыпушчанскай мясцовасці.

— Белавежскія дубы Вычулкоўскага, апісанні пушчы Сянкевічам, расказы Неверлі аб Пушчы, эсэ Яўгена Кабаца, славутыя мастацкія пленэры ў Белавежы, скульптуры ў Гайнаўцы — гэта гістарычныя прадпасылкі для заснавання нараўчанскіх пленэраў, — мяркуе Віктар Кабац. — Задума спасылкі на багатую творчую традыцыйнасць, выкарыстанне непаўторных каштоўнасцей краявіду, гасцінасці і абычаяў жыхароў, кліматы пушчанскіх вёсак і пасёлкаў схільвалі да новых творчых дзеянняў. Першы пленэр па ініцыятыве Кацярыны Бяляўскай, інструктаркі Гміннага цэнтра культуры ў Нараўцы, сарганізаваў быў мастак Пятро Гаган у 2001 годзе. Цяпер гайнавянін Пятро Гаган праводзіць свае выставы ў паўднёвай Еўропе, так што ці не першы раз не прымаў удзелу ў нараўчанскім пленэры. Мастацкі плён першага пленэру быў настолькі каштоўным, што адразу здабыў прыхільнасць гмінных улад, а войт Мікалай Павільч стаў энтузіястам працягу пленэраў і сапраўдным апекуном мастакоў. Таксама нараўчанскі ГОК быў добрым духам усіх пленэраў у Старым Ляўкове, Семяноўцы, Масеве... Цікавыя творчыя здабыткі шматлікіх мастакоў не толькі з Польшчы паўплывалі на задуму стварэння пастаяннай галерэі мастацтва і скульптуры.



Віктар Кабац

Заснаванне галерэі запрапанавалі былі Віктар Кабац і Казімір Юргелянец. Задуму падтрымаў войт Нараўчанскай гміны. Дзякуючы еўрасаюзным датацыям адрамантавалі былі адзін са старых будынкаў нараўчанскай школы, яшчэ з царскага часу. Стаў ён сапраўднай прафесійнай мастацкай галерэяй, атрымаўшы імя знакамітай кінадакументалісткі, ураджэнкі гміны, жыхаркі Нараўкі Тамары Саланевіч, якая сваю вучобу пачынала якраз у гэтым будынку.

— Нараўка — маленькая мясцовасць, затопленая ў незабудзяным яшчэ цывілізацыяй краявідзе, аколеная цудоўнай Белавежскай пушчай, можа ганарыцца шматгадовай гісторыяй пленэраў і ўласнымі зборамі мастацтва, — дадае Віктар Кабац. — Нараўчанская зямля насычана шматлікасцю ўсёахопліваючай, аўтэнтычнай красы. І гэты лес — Белавежская і Лядская пушчы — апошня рэліквіі гістарычнага лесу ў Еўропе. У ваколіцы можам дашукацца архітэктурных цікавінак з гістарычным радаводам. І тая шматкультурнасць з яе выявамі, і з сумнымі, трагічнымі памяткамі даўнейшых жыхароў гэтай зямлі, як кіркут у Нараўцы. Перш за ўсё мастакі ўвекавечваюць у сваіх карцінах пейзаж. Другая тэма — архітэктура вёскі: цэрквы і касцёлы ў Нараўцы, Старым Ляўкове, Семяноўцы, хаты, між іншым родная Тамары Саланевіч, маляваныя ў розныя поры года і дня — тут можна спаслацца на творы м.інш. святой памяці Казіміра Юргелянца ці Аляксандра Гжыбка. На сёлетнім пленэры захапіўся пейзажам наш малады графік, які аказваецца быць знакамітым каларыстам, Радаслаў Мацівеч, малюючы закінутыя хаткі асветленыя апошнім асеннім сонцам. Іншым графікам сярод маляроў з'яўляецца мінчанка Святлана Рыжыкава, якой працам прысвечваюць словы яе бацькі паэта Леаніда Рыжыкава аб пакінутым родным краявідзе... Мастацкія пленэры ў Нараўчанскай гміне гэта не толькі маляванне карцін, але і сустрэчы з сябрамі, сардэчнасць і ветлівасць жыхароў і ўладароў рэгіёна, чыстае паветра, багацце прыроды і веліч Пушчы. А для мяне асабіста гэта сентыментальныя вяртанні ў час дзяцінства. Я, стары лясун, вярнуўся ў Пушчу. Пішу карціны, раблю скульптуры з выкарыстаннем агню, натуральных форм і колеру.

— Пленэры далі плён — некалькі прац у нашай галерэі, — войт Нараўчанскай гміны ганарыцца творчым плёнам мастакоў.

— А найбольшая ў тым заслуга Віктара Кабаца і Пятра Гагана. Яны былі першымі, якія заразілі нас гэтым спосабам папулярызаваць гміну, узмацняць нейкія каштоўнасці, увекавечваць памяткі, якія, на жаль, прападаюць, але ўвекавечаныя — жывуць. Ёсць клімат для таго, каб працягваць адлічванне новых пленэраў, бо спрыяльны клімат у самаўрадзе гміны ёсць. Дзякую ўсім мастакам, якія сталі амбасадарамі нашай гміны.

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

## 04.10 — 10.10

**(22.03. — 20.04.)** Будзеш прывабліві для іншага полу. Вялікі рух у кампанейскім плане. Будзеш неспакойны і нервовы з-за боляў галавы і спіны, пакарыстайся натуратэрапіяй. Асцярожна дзейнічай у фінансах. 5-9.10. пільнуйся ад хітрых людзей; будзеш таксама неаб'ектыўны.

**(21.04. — 21.05.)** У сваёй пары старайся не аналізаваць, лаві хвіліну — усё ўдасца. З 9.10. (да 13.10.) можаш адмовіцца ад некаторых спраў. Не інвестуй у сувязь, якая не мае шанцаў ператрываць. Не засяроджвайся на благіх рысах партнёра. Форма добрая, усе будуць чхаць і кашляць, а ты дасі сабе рады. Размовы пра грошы будуць нялёгкія, але справішся — не кранай іх, аднак, да 9.10.

**(22.05. — 22.06.)** Флірутй і цешся жыццём, бо гэта адкрые цябе на свет і новае каханне. З 9.10. могуць пачацца нялёгкія справы ў пары, трэба будзе сутыкнуцца з чымсьці не вельмі прыемным. Не будзеш у піку і ў здароўі. Але 5-910. твая сумленнасць можа прыкласці табе дарогу да поспеху.

**(23.06. — 23.07.)** Калі ты разгульбаешся ў пары, пастаў на шчырую размову. З 9.10. пачнуцца завіраванні ў кампаніі і ў здароўі, трэба будзе ад чагосьці адмовіцца. 4-8.10. ніякая маніпуляцыя ці эмацыйны шантаж не прынясуць добрых вынікаў, будзе спроба сіл, крыўды. Расчараваць цябе могуць таксама кантакты са сваякамі. Пастаў на шчырасць, хаця не абыдзецца без паднятых галасоў. Арганізуй сваю прастору, але дбай аб кантакты, бо прыхільнасць людзей неўзабаве будзе табе вельмі патрэбная. Не раскідайся грашыма! 5-9.10. нейкія змены на працы.

**(24.07. — 23.08.)** У пастаяннай пары схочаш большай чуласці, бяспекі і стабілізацыі. Хвалі партнёра! Калі маеце праблемы, цяпер усё праясніцца. Знакамітая форма. Месяц прадбачваецца спакойны. Але еж лёгкія стравы, не пі кавы і алкаголю.

**(24.08. — 23.09.)** Магчымая каротка разлука з асобамі які ведаюць лепш, як ты павінен жыць. А ў пастаяннай пары час напружанняў і нерваў. Дбай аб адносіны са сваякамі. Цёпла апранайся. Добра плануй выдаткі, бо трэба будзе зачапіць жалезныя запасы і не так хутка адробіш страты.

**(24.09. — 23.10.)** Калі не адчуваеш сябе добра ў пары, не цягні гэтага сілай. Дай сабе шанцы на новае. Калі адчуваеш самоту, адпачні ад нялёгкіх эмоцый. Засяродзься на бягучых справах. Не палі за сабою мастоў, асабліва калі ты нарожданы 8-14.10. У сям'і пачнуць выяўляцца розныя таямніцы. Здарыцца штосьці здзіўляючае ад асобы, якую ты не падазраеш у шалёнасці. Але форму будзеш мець добрую аж а 23.10.! З 9.10. будзеш лепш сабе даваць рады з эмоцыямі і стрэсам. Можаш увесці новую тэрапію.

**(24.10. — 22.11.)** 4-8.10. час не спрыяе мірным вырашэнням. Час поўны сварак і напружанняў. Не падыходзь да пачуццёвых спраў лішне амбіцыйна. Хоць будзеш мець ахвоту на вялікі зрыў, раптам табе не хопіць сілы. Хоць не сядзі ў месцы, але не рвіся да напружаней фізкультуры і спорту, каб не натужыць пазваночніка і суставаў. Што маеш зрабіць заўтра, зрабі сёння, бо пасля не будзеш мець такой свабоды ў дзеяннях.

**(23.11. — 22.12.)** Шалёнае каханне не чакаецца, але не турбуйся, цешся тым што маеш. Не сапернічай. З цяжкасцю але трэба будзе агарнуць сямейную неразбярыху. Тваё непахіснае імкненне ўперад захопіць не аднаго. Але не парывайся на тое, чаго ты не ў змозе зрабіць, бо наробіш памылак.

**(23.12. — 20.01.)** Рабі стаўку на сваю кар'еру, бо здабудзеш шмат. З 9.10. чакаюць цябе цяжкія дзеянні (яны могуць быць вынікам чыёйсьці злой волі). Калі ты не ўпэўнены, што гэтай асобе хочаш надзець абручальны пярсцёнак, дык гэта добра абдумай. Дома будзеш панам, бо здабаеш пра ўсё. З дзецьмі паможа табе інтуіцыя. Добрая форма і імунітэт у кастрычніку. На працы не нервуйся, рабі ўсё па чарзе.

**(21.01. — 19.02.)** Рабі стаўку на сябе і сілай не ашчасліўляй партнёра, калі не хоча, будзе ўсё наадварот. Дома балаган, што цябе будзе выводзіць з раўнавагі. Адчуваць сябе будзеш ненайлепш. Старайся адпачываць, не натужвайся, бо пад канец месяца будзеш лізаць раны. У фінансах справы будуць ісці к лепшаму, памаленьку. Дбай перш за ўсё аб сябе.

**(20.02. — 21.03.)** Станеш перад нялёгкімі выбарамі. Нават калі будзеш мець поспех, заплаціш за яго высокую цану. З 9.10. могуць выявіцца невядомыя для цябе справы. Дома малая рэвалюцыя, некаторыя справы разваляцца, трэба будзе дзейнічаць хутка і моцна рызыкнуць. Старыя справы перастануць мець значэнне. Увесь месяц добры на правядзенне розных медычных працэдур. Але не раскідвайся грашыма і не чакай пахвал.

Агата АРЛЯНСКАЯ

## Адгаданка

1. хімічны элемент н-р 29 (*Cuprum*), 2. драпежная птушка (*Accipiter*), 3. дзесяцідзённы перыяд, 4. між галавою і тулавам, 5. свойская рагатая жывёла з невялікім тлушчавым гарбом, якую гадуюць у Азіі, Афрыцы і Паўднёвай Амерыцы, 6. аснова з... базальту, 7. дваістасць, раздвоенасць, 8. афіцыйны пошук забароненых рэчаў, напрыклад, на кватэры, 9. вясельня, 10. без агню не бывае, 11. колер шэрсці ў жывёлы, 12. опіенасная расліна з чырвонымі кветкамі.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 37 нумара**

Абак, Дака, дах, дзед, дула, дыск, кат, катавасія, кіт, крыга, кудзеля, палітра, сліва, хутар.

Рашэнне: **Як хатку будавала, дык дзетак гадавала, а як дзеткі падраслі, дык і хатку растраслі.**

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Юстыне Іванюк** з Гайнаўкі і **Васілю Петручуку** з Беластока.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 100 egz.

# У палескай глыбінцы (16)


Царква св. Варвары ў Сарнах

Люба Красько была першай рэальнай асобай з таго дзікага Палесся, перад якім асцерагалі мяне добрыя цёткі ў Шацку. Быццам там, сто кіламетраў далей, у паўночна-ўсходнім напрамку, жылі першабытныя канібалы.

Люба не адчувала сябе горшай, наадварот:

— У нас другі свет, — сказала яна з пачуццём перавагі, — другія людзі.

Жанчына мела новую перманентную завіўку на галаве, падробленую сумку «шанэль» і модны смартфон. Як аказалася, мы ехалі ў адзін бок, на Альманскія балоты. Пазнаёміліся ў цягніку на трасе Ковель — Сарны. Хоць усё дарослае жыццё пражыла яна ў Ковелі, моцна сумавала па сваёй балотнай бацькаўшчыне. Зараз таксама ехала да старэнькай маці дапамагчы ёй справіцца ў полі і агародзе.

«Чаму ае лясны кут быў адгароджаны ад рэшты Украіны нябачным мурам? Можа таму, што ў нас размаўляюць іначай, — думала ўголас жанчына. — У нас гавораць мякка, па-беларуску: *ходіті, робіті*».

Дзякуючы гэтай сустрэчы, маё падарожжа здалося яшчэ больш дзіўным і насычаным спадзяваннямі. Хоць я фізічна ўсё далей ад'язджала ад Падляшша, дык насупраць правілам геаграфіі ўсё роўна набліжалася да яго першабытнага ядра. Дарога на поўнач, у свет ахінуты аўрай ізаляванасці, здавалася не толькі эмацыйным выклікам. Веды і лагістыка, прывезеныя звонку, тут аказаліся непрыдатнымі.

Люба пра гэта ведала і таму баялася за мяне...

* * *

Закалот пачаўся ў Ковелі. Ад рання да поўдня, а пасля да абеду я лётала паміж рознымі вакзаламі ў пошуках транспарту. Аўтобус на Кіеў, на які ў мяне былі ўсе спадзяванні, канчаткова не ад'ехаў. Не хапіла пасажыраў. Засталося чакаць цягніка, які чамусьці спазняўся. Ніхто не ўмеў сказаць, калі ён прыедзе і ці яго яшчэ адправяць. Усё паводле прынцыпу: «Будзе відна! Калі? Як час прыйдзе!».

Каб не губляць настрою, я ўяўляла што знаходжуся дзесьці ў шырокім стэпе, на бездарожжах Манголіі, або ў трапічнай Афрыцы. Апошнюю ідэю наклікалі штучныя пальмы на ковельскім чыгуначным вакзале. На зямлю вярнулі мяне цёткі з пластмасавымі пакетамі, у якіх трымалі свае нехітрыя гарадскія тавары: хлеб і грачаную кашу. Жанчыны паходзілі з сяла Барцяхоўка (Бортяхівка), што ў Ражышчанскім раёне. Прыехалі ў Ковель прадаць сыры, малако і агародніну. Наймалодшая з іх, 65-гадовая Лідзія Паўлюк ужо пятнаццаць гадоў пенсіянерка. Чаму так атрымалася?





— У нас, калі жанчына народзіць пяцёра дзяцей, яе ўзнагароджваюць і адпускаюць на пенсію ў 50 гадоў, — паясніла.

Ці гэта добра?

— Каб была большая пенсія, дык чаго! Жыві сабе як пані. А так пры той нашай бязграшовасці ўсё думай, як дзень пражыць.

Іх пенсіі складалі няпоўныя 50 долараў. Жанчыны ў сваю чаргу распыталі мяне пра ўсё на свеце. Ці маю дзетак? Колькі зарабляе муж? Колькі каштуе ў Польшчы кілаграм грачанай кашы? Да каго еду? Ці пенсіянеры ў Польшчы маюць машыны? Што за сям'я выглядае мяне ва Украіне? Ніводная з іх не ўяўляла што можна ехаць дзесь на канец свету — а так было ў маім выпадку — дзеля прыгожай песні...

У час, калі прыехаў іх цягнік, мы развіталіся як сваякі.

— Дзякуем за добрае слова, — гаварылі ў мой бок бабулі.

Яшчэ больш яны былі ўдзячныя за здымак, які зрабіла я для іх на вакзале. Спадарыня Люба сунула мне ў рукі жменю зярнятак гладыёлуса. Каб завезла іх для сваёй вясковай мамы. Іншая бабуля прапанавала наведаць Пачаеў, дзе ўжо так прыгожа як нідзе на свеце, ну як у нябесным раю...

* * *

Калі дабілася я ў Сарны, неба ўжо моцна пацямнела. Люба паехала на поўнач, абачліва пакідаючы мне адрас сваёй маці. Па дарозе яна ўсвядоміла мяне, што будуць там праблемы. Хоць у сяле ўсе ўсіх ведаюць, складана знайсці чалавека, калі няма ў руках канкрэтнага адрасу і тэлефона. Бо ў палескім сяле бывае больш за тры тысячы людзей, з якіх чвэрць мае адно прозвішча, а часам тыя ж самыя імёны. Але я пакуль не марочыла сабе галавы будучымі праблемамі. Неяк спадабалася мне мясцовая тактыка, якая абяцала, што «раніца мудрэйшая за вечар», а там «будзе відна».

У гасцініцы «Случ» час спыніўся ў мінулым стагоддзі. Ужо сам від дзяўчат з адміністрацыі быў асцярогай. Яны, як многія працаўніцы за 50 долараў у месяц, глядзелі дзесьці ў даль непрысутным зрокам.

Пасля аказалася, што мне неабходна зняць нумар на пяць асоб. Усе месцы, нібыта, былі ўжо заняты. Яшчэ чакала мяне дадатковая аплата за душ. Каб прыняць душ, я была вымушана схадзіць на трэці паверх, заплаціць там 0,20 долара і чакаць аж спусціцца адтуль цётка з анучай і ключамі, ды адамкне абкручаны жалезным ланцугом і такім жа замком душ у аблезлай кабінцы.

Паколькі чакала мяне рамантычнае падарожжа на поўнач, я не капрызнічала і не наракала. Хоць прыём у гасцініцы здаваўся быць з мінулай савецкай эпохі, у горадзе пахла мадэрнасцю. Галоўным атракцыёнам Сарнаў быў гарадскі бульвар, дзе кішэла ад моладзі. Амаль усе падлеткі ганяліся на горскіх веласіпедах. Каралевай бульвара ў гэты вечар была нейкая Аня, якую ўсе кудысьці клікалі і прызывалі...

Я прысела ў піца-бары, дзе прапанавалі мадэрныя стравы, між іншым, грузінскае «хачапуры». Сярод страў я выглядзела тарту з рыбай, грыбамі і бульбай. Гэтая страва здалася мне найбольш палескай. Досвед падказваў, каб наесціся на цэлы наступны дзень...

Пасля, калі вярталася ў свой гатэль, я прыкмеціла святло толькі ў сваім нумары. Нідзе на калідоры я не сустрэла жывой душы. А тыя чатыры, свабодныя ложкі ў нумары толькі падбівалі маю самоту. Затое на гарадскім бульвары гулялі ажно да рання. Я ляжала на канапе і думала: «Як жа тыя дзеткі пойдуць заўтра ў школу?».

(працяг будзе)

**Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960